# SUMMARY

### CHRONICLE
Readers share their latest environmental impressions, according to which they are approaching the "last" autumn with gratitude and reverence, and welcoming the winter of 2001 with hope. One female reader remarks that *"Mankind shouldn't demand too much from nature, and people should control their actions and behaviour in the countryside"*, ***pp 4-5.***

### COUNTERPOINT
The paper continues its exposй of how the Belavezhskaya Pushcha is increasingly becoming nothing more than a pseudo-nature reserve. Maintaining the myth that the forest is still pristine is necessary to the state today. The ruling administration is able to organise hunting for hard currency using the forest's status as cover, and can top up its shadow budget from timber sales. Journalist Valeriy Dranchuk and his interviewee, the ornithologist Uladzimir Datskevich, insist that this unique forest should become a genuine nature reserve again, under the rigorous control of scientists and environmental protection bodies, ***pp 6-8.***

### GREEN FRONT
*"There are a lot of grants, but few protests"* was a thought that surfaced during a roundtable meeting initiated by the newspaper *Belavezhskaya Pushcha.* The discussion centred on how Belarusian NGOs that receive assistance from ecological foundations often put it to ineffective use, and very rarely organise any protest action for nature conservation. "Green" activity should be made more open and public, so that the efforts of NGOs can create repercussions among the public at large. This issue was also mentioned in the resolution which was adopted after the meeting, ***pp 9-12.***

### TRAVELS
*"A nostalgic parting with the millenium on the way forward to the future"* – this is how Walery Dranchuk regards his lyrical notes which he made when travelling on a bicycle across Poland's provinces. *"My goal was to see and understand the neighboring country from out the depth of its landscapes"*, - writes the journalist. – *"For seven days I was alone, face-to-face with the sky, sun, favorable wind and the road"*, ***pp 13-15, 18-22.***

### LAND
The author maintains that, without political change in Belarus, it is impossible to imagine any changes in the authorities' attitude towards the precious national environment. The presidential elections will offer Belarusians a chance to go to the polls and vote for a democratic candidate in Autumn 2001, ***p 23.***

### ALBUM
*"Pawel Buska - the last wild-honey farmer of the Belavezhskaya Pushcha reserve"* – photographs from the collection left by scientist and photo-artist Jan Jerzy Karpinski (1896-1965), ***p 25.***

### EX LIBRIS
Our latest roundup of reviews of "green" publications includes some caustic remarks about how new brands of vodka have just appeared on the market, such as *Zapovednaya ("Reserve")* and *Nalibotskaya Pushcha ("Naliboki Pushcha")*, and there is already one type of vodka that goes by the name of *"Belavezhskaya"*, ***p 26.***


**Выпраўляем недакладнасць**

На апошняй старонцы мінулага выпуску быў змешчаны фотаздымак, на якім уважлівыя і найбольш дасведчаныя чытачы ўбачылі рэшткі Крэўскага замка, а не муры Наваградка, як вынікала з подпісу. Дзякуем тым, хто заўважыў недакладнасць і паведаміў пра гэта ў «БП».

**Рэдакцыя.**

**Мы, людзі, “асуджаныя” быць прыродазаступнікамі, бо адметай разумнасці была й застаецца любоў да прыроды, невычарпальнасць замілаванага пачуцця да яе.**

Фота: Вільгельм Дубіловіч

**Дзень Зямлі** - выдатная магчымасць выявіць і пацвердзіць нашае ўдзячнае стаўленне да прыроды, менавіта - дапамагчы ёй.

Гэта дзень канкрэтных дзеянняў у абарону навакольнага асяроддзя, на карысьць адраджэньня зялёных куткоў Беларусі.

Спарадкаваць, пабудаваць, падмесці, вывезці, ачысціць, пасадзіць... Гэтыя галоўныя дзеясловы Дня павінны як мага ўвасобіцца ў справу, сілаю дзеяньняў “ажывіць” аблічча нашых сялібаў - двароў і вуліц, ваколіцаў і берагоў, лясоў і ўрочышчаў.

Гэта дзень і нашай агульнай духоўнай патужнасці, калі мы разам выказваем занепакоенасць станам навакольнага асяроддзя, ставім патрабаванні перад дзяржавай і яе кіраўніцтвам.

*22 сакавіка* Сусветны дзень в а д ы
Міжнародны дзень п т у ш а к *1 красавіка*
*22 красавіка* **Міжнародны Дзень Зямлі**
Р а д а ў н і ц а *24 красавіка*
*26 красавіка* Дзень Чарнобыльскай т р а г е д ы і

Упершыню Дзень Зямлі пачаў адзначацца ў 1970 годзе. Лаўры заснавальніка належаць Гейларду Нэльсану, заканадаўцу і сенатару ЗША, які, паводле ацэнак суайчыннікаў, зрабіў “найважкі ўнёсак у гісторыю Амерыкі” і быў ганараваны вышэйшай грамадзянскай узнагародай – прэзідэнцкім Медалём свабоды. Але й для іншых грамадстваў гэтакі ўнёсак Нэльсана быў бясспрэчны – свята Зямлі зрабілася ўсюды сваім, напоўнілася адметнымі рысамі і непаўторнасцю зместу. Найбольш пашыранай акцыяй стала пасадка дрэўцаў. Удзел у ёй бралі вядомыя людзі, святары, дзяржаўныя лідэры. У некаторых краінах адзначаецца Тыдзень Зямлі, але галоўнай датай на ім застаецца 22 красавіка – Дзень як Свята.

***Браткі Беларусы!***

***Пасадзім дрэва жыцця, пасадзім дрэва надзеі – і свет залюбуецца Нашым Дрэвам!***

*Першых валанцёраў рыхтуецца прыняць на ўлонкі 20, 21 і 22 красавіка “Устойлівы Хутар у цэнтры Еўропы”. Праграма акцыі: дабраўпарадкаванне тэрыторыі, пасадка дрэў, зялёныя студыі.*
*Кантакт у Менску:*
*газета*
*“Белавежская пушча”,*
*сп.Валеры.*

Устойлівы хутар XXI стагоддзя





З любоўю да ўлоння

# Белавежская Пушча

беларуская

2001 год -- Год ландшафта

№ 4 (25) 2000

*Спрыяльнага Навакольнага Асяроддзя ў новым тысячагоддзі!*

**Аўтарская газета Валерыя Дранчука**

Краявід
Альбом
Вандроўка
Фронт
Анталогія
Летапіс
Край
Кнігазбор

**Беларускае прыродалюбнае асветна-публіцыстычнае выданне**

**Magazine edited and published by Valery Dranchuk**

## Змест



Белавежская Пушча

BIELAVIEZHSKAYA PUSHCHA
Magazine edited and published by Valery Dranchuk
**Motto: With a love for Mother Nature**
Contact: 220088, Miensk, Ivanauskaya st., 38-16,
Phone 8217 236-50-76, fax 220-23-53
E-mail: NPpushcha@irex.minsk.by

©прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета **год выдання шосты** пасведчанне аб рэгістрацыіі №125 ад 27.06.96

**Заснавальнік і рэдактар** Валеры Дранчук

**Макет, вёрстка** Валеры Дранчук, **карэктура** Уладзя Ляская, **summary** Марк Бэнц, Саша Годзіна

**Адрас для дopісаў** 220088, Мінск, Іванаўская, 38-16 тэл.236-50-76, факс 220-23-53. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак

Падпісана ў друк 26.02.2001. Фармат 60x84 1/8. Наклад 1800 асобнікаў. Кошт дамоўны. Замова № 794. Надрукавана ў друкарні унітарнага прадпрыемства **"Белпаліграф"** (220010, Мінск Мяснікова, 37). Ліцэнзія: ЛП №135 ад 15.08.2000



Рэклама газеты «Белавежская пушча», Аахен, Германія, 1999



# Слова рэдактара

ПРАЧЫТАЎ — ПЕРАДАЙ ДРУГОМУ «Б·П»

**Н**ехта з чытачоў зірне на лічбу «**25**» — такая колькасць нашых выпускаў ад заснавання — і, пэўна, памкнецца праверыць пільнасць рэдакцыі на юбілейныя знакі, знайсці водгук з нагоды. Маё слова і будзе, мабыць, з нагоды, бо, гледзячы на спалучэнне лічбаў, міжволі ўзнікае адчуванне хады і шляху; відаць, напраўду варта даць веры, што дажылі да маленькага, хай сабе і вельмі сціплага, юбілею. Нагода ж такая: перш-наперш заўдзячыцца лёсу і стану душы, дый згадаць заадно пра вольнае «зялёнае» выдавецтва на Беларусі: «Белавежская пушча» была першай незалежнай газетай на карысць краявідаў, іх ацалення і ўратавання, дзеля заступніцтва перад пагрозамі.

Газета «Белавежская пушча» --лаўрэат Еўрапейскай прэміі Генры Форда «За захаванне культурнай спадчыны і навакольнага асяроддзя» 1999

**Я** не быў закончаным рэалістам, таму ўзяўся рабіць газету адзін, ніхто, апроч самых блізкіх, мне не дапамагаў, але, дзякаваць Богу, ніхто асабліва й не замінаў.

**С**ведчу пра гэта выключна дзеля таго, каб як мага больш сярод нас было ідэалістаў, гатовых пайсці маім шляхам. Ніва Беларушчыны яшчэ такая неўзараная, але такая ўраджайная — на кожнае з любоўю кінутае каліва знаходзіцца чулая душа.

**К**ола прыхільнікаў выдання напраўду шырокае, многія людзі прынеслі мне і сваё захапленне, і разуменне. Я бачу іх кожнага паасобку і чую іхнія галасы. Быццам зоркі на купале ночы, яны тут і там абзываліся-ўспыхвалі святлом агульнай радасці і яднання. Таму шлях наш светлы. Трэба ісці па ім.



Удзячны —

**Валеры Дранчук**

Літара «П», скарыстаная ў малюнку назвы газеты, ўзята з кнігі «Маляўнічая Расія. Літоўскае і Беларускае Палессе», 1882







## Краявід





**З**іма ў Белавежскай пушчы надоўгая, наступае позна і скончваецца рана.

У ціхія пасля завеі дні, калі надарыцца ўдача, можна ўбачыць Пушчу ў класічным снегавым бляску. Усё навокал набывае велічна-ўрачысты казачны выгляд.

**Уладзімір Дацкевіч.**
Белавежская пушча, в.Камянюкі.
Фота аўтара (з архіва).

Працяг тэмы на старонках 6 - 8



# Апошняя восень... 2001-я зіма

*Сучасная хроніка прыроды і клімату*

**Стагоддзе на апошніх прыступках свайго сыходу падаравала нам цудоўную восень. Ці ўсе гэта заўважылі? Зачараваліся? Заўдзячыліся? І якой будзе першая зімка? Квартальнік зрабіў «навакольнае» апытанне, трохі на вуліцы, пераважна ў гушчыні вірлівага людскога натоўпу, трохі сярод сваіх даўніх сяброў і знаёмых.**

*Ты маеш выгляды прарока,*
*Мой край пакуты, край святы...*
*Якуб Колас*

**З любоўю да ўлоння ў новае тысячагоддзе. Мір Вашаму Дому, сябры!**

*Сонца на лета!*

Чыгуначны пераезд на станцыі Пціч. Мінскі раён. 2000.
Фота: Валеры Дранчук
(АрСтудыя «Краявід»)

***Людміла Калоша,***
**настаўніца пачатковых класаў, пасёлак Фаніпаль, што пад Койданавым**

**1.** У гэтай апошняй восені, здаецца, сабрана ўсё тое, што за стагоддзе скрадвалі папярэднія. Гэткім чынам, відаць, восень разлічваецца з намі, сплочвае свае даўгі. Прырода ўсё ж вельмі справядлівая, аддае нам што можа. А вось мы?.. Мой чацвёрты клас, я гэта бачыла, спрабаваў зразумець адну рэч: ад прыроды, якая нам дадзена, большага патрабаваць нельга. Трэба патрабаваць ад сябе — дапамагаць прыродзе, абараняць яе і быць ёй удзячнымі. Такі галоўны ўрок гэтай восені.

**2.** Вядома ж, Міжземнае мора, якое, паводле прагнозаў сіноптыкаў, пасылала цёплы ветрык, у рэшце рэшт «прызабудзецца» на нас. Падзьмуць халады. Я веру ў сярэднестатыстычную зіму — першую ў новым тысячагоддзі.

А наогул, мая зіма ў маёй памяці, у той цудоўнай краіне дзяцінства, дзе вышэзныя гурбы ў тры росты, дзе завеі гудуць ды ў ціхі вечар скрыпае пад нагамі снег. Спадзяюся на такую зіму і цяпер. Але і тую, сваю, трымаю, як наша бабка Зося трымала ў куфэрку свае даматканыя ручнікі. Тым часам, зіма ўжо пачалася. Пакуль што цёмная, ліпілаўская, але, інакш быць не можа, хутка ўсё засвеціцца пад «белай лямпай снегу» (гэты вобраз вычытала ў вашай цудоўнай «Анталогіі»). А не, дык нас Ражство святое асвеціць, Грамнічная свечка, ўспаміны дзяцінства, памяць пра нашых продкаў беларусаў.









Возера Нарач (блізу санаторыя «Прыазёрны»). Снежань, 2000.

Здымак даслаў **Аляксандр Коўка** з Лунінца. Віншуем Аляксандра з публікацыяй!



З 2001 года газета "Белавежская пушча" распачынае новы праект— **"Фатаграфічны архіў "Улонне"**. У адмысловую скарбонку патрапяць лепшыя фотаадбіткі нашых краявідаў, якія ўвасабляюць ландшафтную разнастайнасць XX – XXI стст. Ідэя палягае на тым, каб зафіксаваць (захаваць зафіксаваныя) характэрныя выгляды, весці параўнальны аналіз ды надалей трымацца боскага правіла: не руш тое, што стварыў Вялікі Творца, не пакарай Прыроду, а суладна, гарманічна жыві ў ёй.

Зрабіце ўнёсак!

***Аляксандр Баран,***
***інжынер-электрык, Мінск.***

**1.** З прэсы вядома, якія сілы прыроднай стыхіі абрынуліся ў гэтую восень на краіны Заходняй Еўропы. Ураганы, паводкі... А ў нас, дзякуй Богу, стаялі прыгожыя цёплыя дні. Хоць, жывучы ў горадзе, гэта цяжка заўважыць. Больш прадчуваеш. Праўда, ездзіў да брата капаць бульбу і ўвачавідкі цешыўся з гэтай Божай памыснасці. Дзянькі былі найзалацейшыя — я назваў бы іх райскімі днямі. І так хацелася б верыць у Беларусь шчаслівую, годную, кліматычна ўстойлівую.

**2.** Зіма... Можа быць усялякай, хоць пакуль што выглядае на вельмі мяккую. Снежань месяц, а недзе зацвілі рамонкі, бабкі ў пераходах прадаюць васількі. І ўсё ж я веру ў добрую, з «сярэднімі» паказчыкамі зіму. Не можа быць, хутка падзьмуць халады.

***Аляксандр Гутоўскі,***
***экатурыст, Стоўбцы.***

**1.** Восень парадавала нейкай курортнай лагодай. Дабрыня і ласка прыроды разліліся на цэлыя некалькі тыдняў — пі, колькі хто пажадае! Мяне ўразіла больш за ўсё празрыстасць далягляду. З гары Маяк, напрыклад, што на Браслаўскіх азёрах, вежа Друйскага манастыра была абсалютна даступная воку з адлегласці — не паверыце! — 26 кіламетраў. Мы прыйшлі туды і адчулі сябе шчаслівымі. Было цёпла, хоць загарай, а пры гэтай цеплыні і лагодзе мы ўбачылі непаўторныя асеннія відаряды. Не пабаюся сказаць, што гэта была класіка беларускай прыроды.

**2.** Цяпер пра зіму. Больш за ўсё спачуваю дзецям. Ім яна так патрэбна, а яе зноў няма. Няма такой, якую мы, дарослыя, памятаем з дзяцінства — поўна снегу, лёд на рацэ, мароз пацiскае. Нашы забавы — санкі, лыжы, канькі адыходзяць на другі план. Шкада. Дзеці ўжо больш каля тэлевізараў ды камп'ютараў. Свет рэальны, глядзіш, замяняецца на віртуальны. Адным словам, хочацца праўдзівай зімы, каб стаць на лыжы, пракласці лыжню, зліцца з прыродай.

***Міхаіл Шакінка, вайсковец,***
***пасажыр цягніка Мінск-Гомель***

**1.** Усю гэтую восень я правёў у бацькоўскім краі, на роднай Пружаншчыне. Дзякуючы незвычайна цёплай, лагоднай восені я лішні раз адчуў і зразумеў, што Беларусь — мая маці. Бо ў гэтай восеньскай ласцы было шмат мацярынскага цяпла, ветлага і адзіна пяшчотнага.

У лістападзе стаялі дні, калі я капаў градку ў плаўках. Можна сказаць, загараў. Піў халодную ваду з калодзежа гэтак жа асалодна, як гэта бывае ў летнюю спёку.

**2.** Зіма будзе, відаць, таксама цёплая. Хоць што казаць — я не аматар метэапрагнозаў. Будзе снег — буду радавацца. Люблю зімой бываць у лесе, асабліва на лыжах, калі снег мяккі і сыпкі, а пад ім ужо добры шарпак, трывалая скарынка. Тады ідзеш ціха, камфортна. Я не хацеў бы, каб зіма знікала з нашага ўлоння. Дарэчы, мала веру ў «парніковы эфект», але ўпэўнены ў тым, што са зменай нашых ландшафтаў мяняецца і клімат. Гэткае меркаванне я неаднойчы чуў ад вяскоўцаў і цалкам яго падзяляю.

***Лістапад — снежань 2000***



Зімовы краявід на мяжы XX—XXI стст. Урочышча "Булатаўшчына". Нясвіжскі раён.
Фота: Валеры Дранчук. Студзень, 2000.

# Пралог:

## *Адміністрацыя нахабна пакарысталася Пушчай і цяпер збіраецца рабіць выгляд, што яе вотчынай кіруюць сумленныя людзі*

лес

XXI

стагоддзя

**В**ялікі лес — Белавежская пушча — можа знікнуць на працягу наступнага стагоддзя. Што супрацьпаставіць, каб Пушча захавалася? Сказаць усю праўду, разьвеяць міф, перадаць тэрыторыю сусветнай чалавечай спадчыны ў рукі навукі?

**Улада схлусіла зноў.** На пасаду генеральнага дырэктара нацыянальнага парку «Белавежская пушча» прызначаны Яўген Смактуновіч. Патомны пушчанец. Тут, як кажуць, нарадзіўся і вырас, тут працавалі ягоныя дзед і бацька. Гэта праўда. Няпраўда там, дзе ўлада спрабуе звязаць гэты кадравы зрух з нібыта зычлівымі намерамі і дбайным сваім слугаваннем на карысць Белавежскай пушчы. Праўдай гэта было б гадоў колькі таму, калі «асабліва ахоўны» лес чакаў гаспадара-беражліўца, гаспадара-заступніка, і Яўген Смактуновіч тэарэтычна мог **тады** стаць кіраўніком парку. Аднак не стаў, бо планаваўся **лесазнішчальны** праект, пад які Пушча і прыдбала статус «нацыянальнага парку» замест запаведніка (на запаведніку настойвалі вучоныя). Дырэктарам паставілі калгаснага старшыню (**!!!**), ён пераехаў у Камянюкі з Магілёўскай вобласці. Васіль Патапавіч Жукаў — свяціла фарбай на візітоўцы пад «шапкай» кіраўніцтва справамі прэзідэнта новае імя — трымаўся пэўна. За ім стаяла ўлада, якая сказала яму, **што рабіць і як сябе паводзіць**. Пабудавала файны асабняк (затым дазволіла прыватызаваць), навучыла крывадушна маўчаць, а прамінулай вясной аддзячыла не абы-якой пасадай у Мінску. За гады службы «кадр» падпісаў усе неабходныя кантракты (чаго варта закупка і размяшчэнне высокапрадукцыйнай пілармы!), бліскуча забяспечыў уладны рэжым здольнасцю рабіць тое, што «там» загадаюць, і ў рэшце рэшт, калі час надышоў, знік «з месца злачынства».

**Я.Смактуновіч** апошнія тры гады быў галоўным ляснічым парку і не стаяў далёка ў баку. Добра ведае след Івана Ціцянкова ў Пушчы, прайшоў і адпаведную «школу» стасункаў з разнамасным чыноўным начальствам. Да яго прыглядзеліся і хутка скемілі: добрае, пакуль незаплямленае імя і патэнцыял Смактуновіча сёння патрэбныя больш уладзе, чым Пушчы. Што да Пушчы— велічнай і запаведнай— дык яна, **такая**, ані непатрэбная «кадравікам» прэзідэнцкай адміністрацыі. Пушчай нахабна пакарысталіся, цяпер улада будзе рабіць выгляд, што «біясферным запаведнікам» (паралельная назва нацыянальнага парка) кіруюць сумленныя людзі. З мясцовых, пушчанцы. Выпраўляюць дапушчаныя памылкі, берагуць гонар і славу адвечнай карміцелькі і заступніцы дзядоў-прадзедаў.

Новы дырэктар пачне паціху закрываць рабаўніцкія кантракты, вяртаць Пушчы незваротнае, а ўладным чыноўцам з адміністрацыі — добры **выгляд твару**, па якім яны, мусіць, моцна занудзіліся.

Гэта я не пра Яўгена Смактуновіча. Ягоныя сапраўдныя выпрабаванні толькі пачынаюцца. Я— пра сённяшнюю ўладу, якая хоча, каб усё пайшло па яе сцэнары, поўным крывадушнага зместу.

**Як** пойдзе і ці спраўдзіцца сцэнар замятання слядоў, хутка пабачым.

Тым часам я ўспамінаю першую сустрэчу з ветэранам і знаўцам Пушчы, сумленнем Пушчы, паслядоўным і ўпартым заступнікам яе каштоўнасцяў і багацця **Ўладзімірам Дацкевічам.** У 1996 годзе ён вельмі цёпла адазваўся пра Яўгена Смактуновіча, аднак не цешыў сябе надзеяй, што без палітычных зменаў можна нешта змяніць у Пушчы.

Гэтыя нататкі я і прапаную ў якасці **пралога**— актуальнай падставы да нашых гутарак з Уладзімірам Апанасавічам у яго хаце, на адной з ціхіх вуліц Камянюкаў. **В.Д.**



# Маналог

## *Уладзімір Дацкевіч: «Вы можаце ўявіць сабе карціну: запаведны лес -- гэтак званая асабліва ахоўная тэрыторыя, дзе бензапілы глушаць рокат магутных матораў ?..»*



**У**ладзімір Дацкевіч, ветэран Белавежскай пушчы, вучоны. Вёска Камянюкі, лістапад,1999

### *Пнёвыя краявіды*

«Вясной пойдзем, я пакажу вам гэтае месца. П*а*дае скальны дуб. Вы ўбачыце на свае вочы. Яшчэ трохі часу, і гэты найкаштоўны асяродак лесу адыдзе ў нябыт. Надзіва рэдкая супольнасць Пушчы, яе мы хутка не ўбачым. Страта незваротная. Бо сыходзіць вада. Уяўляеце, крыніца Жыцця пакідае Пушчу. Прычым, на пагоркавым месцы. Крыні, бывала, выходзілі прама наверх. Ручайкі беглі, цэлыя рэчкі. Дагэтуль відаць зарослыя рэчышчы. Вадзіліся качкі. Было балота. Дзе-нідзе засталіся рэшткі, нейкая крыха вады сям-там яшчэ сочыцца. Тут, каля гэтых крыніцаў, дрэвы яшчэ стаяць. Але гэта ўжо стан выжывання. Лічы, канец. Далей ад крыніц — спрэс адміраюць. Пнёвыя краявіды. Праз дзесяць гадоў не застанецца і гэтага следу.»

### *Хоць вазьміце па-людску!*

«Я ўжо амаль зміры ўся. Але злуе двурушнасць функцыянераў, якія ў Пушчы за гаспадароў. Дураць народ. Я разумею, Пушча пачала падаць. Чалавек зрабіў чорную справу — і гэта мусіла стацца. Ні волі, ні спосабу ўратаваць становішча ў цяперашніх уладаў няма. Падзенне будзе працягвацца. Але афіцыйная палітыка не прызнае гэты факт публічна — адміністрацыя спяшаецца пагрэць рукі. Толькі ж і тут усё на хворую галаву, пачварна, у нейкай шалёнай бязглуздай спешцы. Здарылася бяда — дык хоць вазьміце, што магчыма, па-людску. Я ўжо не кажу, што трэба дзень і ноч думаць, як прыпыніць працэс дэградацыі, заняпаду. Пра гэта забыліся думаць, не тое што ратаваць. Але ўжо калі браць, дык браць з толкам.

Што робяць яны? Купілі ў прыватніка-немца бэвушную лінію, кінулі на яе аграмадныя грошы, богведама, што ў рэшце рэшт атрымаецца і як той крэдыт акупіцца , — гэта не жарт. Даваць жа трэба якасны прадукт. А каму тут рабіць? У гэтай сістэме прадпрыемства такога кшталту працаваць не будзе. Кваліфікацыя рабочых — раз. Дый народ пайшоў... Жадання працаваць няма. Абы дзень да вечара. Калі хто талковы — яму не будзе ходу, ён не прыжывецца, не захоча рабіць бясплатна, пойдзе шукаць лепшае. Адкуль быць якасці? А хто купіць дзярмо? Словам, тэхналогіі і працоўная сіла не гатовыя даць канкурэнтаздольны прадукт. З адпаду, калі на тое, можна азалаціцца. Але ўявіце, якія змены патрэбны, каб у нашых умовах адбыўся гэтакі цуд. Я маю на ўвазе перш-наперш палітычныя змены.»

### *Як «яго» назваць?*

«Напачатку я думаў, што многія ў Пушчы не разумеюць, што твораць. Прыгледзеўся, некаторых паслухаў. Хто больш прагрэсіўны і з жалем на гэта глядзіць, той разводзіць рукамі. Маўляў, што зробіш супраць дурняў.

Але гэта не так. Тыя «дурні» цудоўна разумеюць, што яны робяць. Канешне! Кажуць, маўляў, дырэктар (Жукаў В.П. — ***рэд.***) --былы старшыня калгаса. Яно так. Але ж ані не дурань, не прафан. Абсалютна. Яшчэ які не прафан! Будзь здароў! Я запэўніўся ў гэтым не раз. Усё ён цудоўна разумее.

І законы вывучыў на зубок. Каб ведаць, што парушае! У яго развязаны рукі. Ведаеце, тут даўно прыжыўся інструмент застрашэння людзей — паспрабуй пікні, скажы што супраць... Яму і далі гэткую ўладу, каб ён падаўляў і застрашаў.

Як яго назваць — жулікам ці неяк яшчэ? Не ведаю. Але гэта далёка не дурань і не прастак, не тупіца. Усе гэтыя тытулы і дыпломы, якімі ўганаравана Пушча, для яго ўсёадно што ігральныя карты. Ён даўно зарыентаваўся, як сябе паводзіць і якія словы казаць высокай грамадскасці, у тым ліку экспертам рады Еўропы. Ён зробіць правільны



**Д**зіцячы малюнак з календара «Людзі і Белавежская пушча» (Польшча, 2000)

На гэтым аўтобусе прыехалі ў Белавежскую пушчу паляўнічыя з Нямеччыны. «Тут у вас добра, дагледжаны лес, ветлівыя людзі», — прызнаўся адзін, які за старэйшага. Супрацоўніца з мясцовай абслугі мне патлумачыла, што з сабой немцы вязуць горы гастранамічных запасаў, першнаперш скрыні піва і мінералкі, бо нашай вады не п'юць. На тыдзень ім хапае. Што застаецца, забіраюць назад, дабром не раскідаюцца. Пакідаюць толькі мяшэчкі з пустой тарай: сякі-такі клопат пра нашы «асабліва ахоўныя» тэрыторыі ўсё ж праяўляюць. Што да мясцовага  сэрвісу, дык ён іх цікавіць там, на паляўнічай сцяжыне!



сёння прыродаахоўнае ў Белавежскай пушчы? Стаяць шлагбаумы, якія абмяжоўваюць доступ… каго? Непатрэбных адміністрацыі асобаў. Астатнія — колькі заўгодна і дзе заўгодна. Доступ абсалютны. Раз'язджаюць як па ўласнай фазэндзе. Адно што — з дазволу адміністрацыі. Хіба гэта не ўплывае на стан Пушчы? Яшчэ як! І загазаванасць, і неспакой, і паруха лясной цішыні, і рознае іншае. Якая прыродаахова? Апроч рубак у лесе іншых работ няма. Нарыхтоўкі набылі ўстойлівы перманентны характар і пануюць непадзельна. Вы можаце ўявіць праўдзівую карціну: запаведны лес — так званая ахоўная тэрыторыя, дзе рокат магутных матораў глушаць бензапілы…»



выгляд і скажа тое, што ад яго хочуць пачуць. Паходзіць той самай «картай» і нават вокам не міргне.»

### *Аванс для разумных*

«Вы думаеце, што замежныя эксперты ў гэтым не разабраліся? Ва ўсім разабраліся. Але ж ім трэба неяк стымуляваць, спанукаць цывілізаваную дзейнасць, беражлівыя адносіны да таго, што хоць неяк ацалела, таму ідуць на гэта. З аднаго боку, прызнаюць каштоўнасць, з другога — ствараюць пэўныя рамкі дзейнасці. Што ані не значыць, быццам яны ў захапленні ад убачанага альбо гэтак высока ацэньваюць зробленае. Гэта разумны аванс для разумных людзей.

А як было ўсё падазена і разрэкламавана: дыплом! за заслугі! вось мы захавалі! вось як умеем! вось мы якія! І гэтак далей. Дыплом Рады Еўропы быў чарговы раз скарыстаны для далейшага фальшавання і прыкрыцця гаспадарчага ўціску на Пушчу.

На ўмовы і рэкамендацыі заплюшчылі вочы. Каму трэба захоўваць умовы ці прыслухоўвацца да рэкамендацый? І хто будзе гэтым цікавіцца? Урад, парламент?..»

### *Праўдзівая карціна*

«Бяруся даказаць на фактах, што пачынаючы з 1957 года ніводнае мерапрыемства ў Пушчы, якое санкцыявалася адміністрацыяй, не было прыродаахоўным. Скажыце, што

### *Ці ўратуем рэшткі?*

«Па вайне, калі не стала вузкакалеек, Пушча зрабілася недася--гальнай. Старыя дарогі, яшчэ ад царскіх паляванняў, ператварыліся ў кісейную масу, сталі непраезнымі. Хіба на кані якнебудзь, на ровары.

Цяпер жа — асфальт. Тысячы кіламетраў дадатковых дарог. Стопрацэнтная дасягальнасць. Толькі газуй. Так званыя санітарныя рубкі — гэта падман, тралююць жа лес выключна трактарамі. Адно — што бязбожна сякуць, другое — губяць, коўзаючыся, страты ад гэтага куды большыя.

Каб хоць рэшткі, што ацалелі, уратаваць! Не рассеем мы гэты міф, не данясём горкую праўду пра Пушчу, яе гаротлівы сённяшні стан, — мы не ўратуем і рэшткі».

***Запіс 1998 — 2000 гг.***

Фота: Валеры Дранчук. Студзень, 1999



Тэнісны корт на галоўнай сядзібе нацыянальнага парку «Белавежская пушча». Тоўшчай снегу пакрыты дарогі і зялёны імпартны насціл — «пад газон». Пра што думалі функцыянеры прэзідэнцкай адміністрацыі, калі прымалі рашэнне аб яго будаўніцтве? Толькі не пра тое, што гіне сама Пушча і трэба яе ратаваць.





# *Сустрэча-дыялог* на Свіцязі

## *закранула адну з самых балючых праблем «зялёнага» руху -- прыярытэтнасці праектаў, іх конкурснасці і адкрытасці працэдураў адбору і кантролю за выкананнем*

**Паведамленне БелаПАН**

***18 лістапада.*** Праблемы публічнай дзейнасці грамадскіх экалагічных арганізацый сёння абмяркоўваюць удзельнікі «круглага стала», які распачаў сваю працу ў пансіянаце «Свіцязь» (Навагрудскі раён Гродзенскай вобласці).



«Круглы стол» арганізаваны Асамблеяй дэмакратычных недзяржаўных арганізацый. Удзел у ім бяруць каля 50 прадстаўнікоў навуковых установаў, грамадскіх экалагічных арганізацый і СМІ з розных куткоў Беларусі, а таксама міжнародных дабрачынных фондаў ЗША, Польшчы, Чэхіі.

У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН адзін с арганізатараў сустрэчы, заснавальнік і рэдактар беларускай экалагічнай газеты «Белавежская пушча» Валеры Дранчук адзначыў, што дзейнасць міжнародных фондаў, якія адпускаюць фінансавыя сродкі пад праекты беларускіх грамадскіх экалагічных арганізацый, часта заслугоўвае крытыкі. Працэдура адбору праектаў, паводле слоў Дранчука, не з'яўляецца дастаткова ўцямнай і адкрытай, з-за чаго многія актуальныя прыродаахоўныя праекты не падтрымліваюцца, тады калі дробныя і выпадковыя нярэдка фінансуюцца. Усё гэта і сталася падставай дыялога беларускай грамадскасці з міжнароднымі фондамі і іх прадстаўніцтвамі.

Апроч гэтага, заўважыў Валеры Дранчук, беларускія грамадскія арганізацыі павінны вызначыць прыярытэты дзейнасці і выпрацаваць стратэгію сумесных дзеянняў, на якую маглі б абаперціся міжнародныя экалагічныя фонды. Сярод прыярытэтаў ён назваў ліквідацыю наступстваў чарнобыльскай катастрофы; лёс беларускага лесу, малых рэк і запаведных тэрыторый, дзе "прынцыпы" эксплуатацыі павінны саступіць месца прынцыпам абароны; захаванне біялагічнай і ландшафтнай разнастайнасці; доступ да чыстай вады; стварэнне базы дадзеных усіх айчынных экалагічных праектаў, а таксама залучэнне да прыродазаступніцкай дзейнасці як мага большай колькасці людзей. «Не трэба забываць, што сродкі міжнародных экалагічных фондаў, што накіроўваюцца ў нашу краіну, павінны служыць Беларусі на карысць яе біялагічнай спадчыне», --падкрэсліў Дранчук.

Па ягоных словах, той палітычны рэжым, які ўсталяваўся ў Беларусі і які не паважае асновы і прынцыпы дэмакратыі, пагражае і «зялёным» каштоўнасцям краіны. Толькі адкрытасць і публічнасць грамадскай дзейнасці ёсць гарантам развіцця «зялёнага» руху ў Беларусі.

Паседжанні «круглага стала» прадоўжацца два дні. Іх вынікам мае стаць свіцязянская рэзалюцыя з ідэяй аб стварэнні Асацыяцыі экалагічных недзяржаўных арганізацый і ініцыятыў.

***МаратГаравы, БелаПАН***

Дыскусію паміж удзельнікамі распачаў **Валеры Дранчук**, які быў за вядучага на сустрэчы. Ці ёсць на Беларусі «зялёны» рух? Сёння цяжка сцвярджаць штосьці пэўнае. Прынамсі, бракуе даследванняў ці хоць бы разгорнутых дыскусій і меркаванняў на гэты конт. Аднак момант ісціны зараз палягае на тым, што рэзерв публічнасці і адкрытасці актуальны ў абодвух выпадках: і калі рух наступальны, выразны, і калі зусім кволы. Замоўчванне нават самых нязначных эпізадычных патужнасцяў грамадства на захаванне біялагічнай спадчыны і адстойванне  бяспекі свайго пражывання ў навакольным асяроддзі ёсць добрай паслугай тым, хто кіруе дзяржавай, хто бязбожна рабуе яе багацці, хто ігнаруе правы чалавека на жыццё. Збольшага такі малюнак мы і бачым:  зялёны рух кволы, ён неадэкватны рэальнасцям асяроддзя. Да ўсяго і голасу «зялёных» амаль не чуваць.

Прыйшоў час заўважыць адну з самых пагражальных тэндэнцый апошніх 5-8 гадоў: няўрадавых экалагічных арганізацый становіцца больш, іх дзейнасць робіцца праектаскіраванай і заахвочанай грантадаўцамі, а **прырода, нашы біясферныя каштоўнасці, навакольныя асяродкі застаюцца неахаванымі,** мізарнеюць з-за традыцыйных і новых форм эксплуатацыі, негатыўнага ўздзеяння, — **іх практычна ніхто не бароніць.**

Трэба тэрміновым чынам ставіць дыягназ і ўмешвацца ў працэс, мяняць тэндэнцыю. Інакш нават тыя невялікія сродкі, якіх пакуль для нас не шкадуюць фундацыі Захаду, пойдуць намарна, будуць перахопліваціа спрытнымі функцыянерамі трэцяга сектару, якія прыйшлі абслугоўваць грамадскі экалагічны рух і… практычна выціснулі яго, зрабілі гэты рух нежывым, няздольным да абаронных акцый, да супраціву. Як у вядомым сюжэце, толькі наадварот:  «зялёны фронт» зачынены, усе пайшлі на фуршэт. Застольнафуршэтны кірунак «дзейнасці» нагэтулькі спадабаўся, што пра пікеты ці іншыя формы пратэсту даводзіцца хіба ўспамінаць. Тых, хто лепш пачуваецца на фуршэтах, чымсьці на высечках Прыпяцкіх дуброў з плакатам у руках, на жаль, куды больш.

Ёсць грамадскія арганізацыі, якія існуюць не так даўно і паспелі «асвоіць» дзесяткі тысяч долараў заходніх падаткаплацельшчыкаў. Ёсць вельмі здатныя спецыялісты па напісанні заявак і справаздач. Куды менш — цікавых праектаў  у натуры, публічных узораў прыродаахоўнай патужнасці.

Як адзін з прыкладаў выступоўца згадаў стан запаведных тэрыторый

Беларусі, дзе з рукі дзяржаўных авантурыстаў ці не ўсё рабілася ў абыход грамадскай і навуковай думкі, з парушэннем заканадаўства. Тым часам беларускія «зялёныя» не пажадалі нават высоўвацца — лузалі свае «гранты» ў дупле, пакуль у Белавежскай пушчы не збудавалі супер-пілараму.

Па-ранейшаму застаюцца без заступнікаў нашы водныя крыніцы, лес, на якія б першым чынам мусілі распаўсюджвацца праекты-SOS.

Валеры Дранчук нагадаў пра **адказнасць** людзей, якія доўгі час трымалі на сабе ролю лідэраў зялёнага руху перад замежнымі фондамі. У пэўнай меры яны прыватызавалі зялёную ідэю замест развіцця дэмакратычнай працэдуры выяўлення дзейных ініцыятыў і пашырэння самой ідэі. Размеркаванне сродкаў ішло ў межах тусоўкі і мала спрыяла нараджэнню і рэалізацыі новых свежых праектаў, асабліва праектаў-SOS. Выступоўца спаслаўся на сумнiўныя паслугі зялёнаму руху з боку добра вядомага Сяргея Дарожкі. Займаючы пасаду загадчыка кафедры экалогіі ВНУ, былы камсамольскі функцыянер дзейнічаў хутчэй паводле старых бюракратычных звычак, чымсьці дэмакратычных прынцыпаў, якія прапаноўвалі Беларусі заходнія партнэры. Так склалася, што С.Дарожка воляй лёсу прыняў спадчыну «камсамольскіх» кампаній за экалогію і на яго, абранага лёсам новай незалежнай Беларусі «зялёнага» закапёршчыка, усклалі надзеі шматлікія замежныя фонды і прадстаўніцтвы, даверылі яму пасярэдніцтва і немалую частку паўнамоцтваў, тым самым адгарадзіўшыся ад астатняй і досыць актыўнай часткі экалагічнай грамадскасці, асабліва ў глыбінцы, на ўзроўні мясцовых праблем. Менавіта асабістыя якасці і схільнасці С.Дарожкі не дазволілі даць працэсу развіваццa і пашырацца. Зялёны рух, пазначаны ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў, хутка быў прыўлашчаны і размеркаваны ў межах вузкага кола людзей, да таго ж і цалкам кантраляваны, лічыць Валеры Дранчук.

Безумоўна, адзначыў выступоўца, такі стан рэчаў вынікае і з **паводзінаў той ці іншай грамадскай арганізацыі**. Ёсць выключна «спецыфічныя» праекты, арыентаваныя на заробак, а не на вынік ці грамадскі рэзананс. Так бы мовіць, для службовага карыстання. Пры гэтым, аднак, справа захоўваецца «рытуал» крыху іншага кшталту — бясконцыя трэнінгі з перапынкамі на каву, фуршэты, паездкі ў Еўропу і г.д. Вядома ж, за грошы грантадаўцы, больш дакладна — за грошы іншых дзяржаў і іншых грамадстваў. Але ж гэта ўжо, прабачце, грошы Беларусі, а не Пятрова-Сідарава, і гаворка ідзе не пра тое, што кава-брэйк ці паездка за мяжу — гэта дрэнна; гаворка пра тое, што гэтыя грошы, па-першае, вельмі часта адмываюцца «гранта-элітай», якая лоўка арыентуецца ў гэтых грашовых патоках, прыўлашчваюцца і дзеляцца на «сваіх», а па-другое, гэтых сродкаў, якія заходнія падаткаплацельшчыкі ахвяруюць на нашы цяжкасці, надта мала, каб ігнараваць праблему прыярытэтнасці праектаў, іх конкурснасці і адкрытасці працэдураў адбору і маніторынгу выканання.

Сёння трэба казаць пра стварэнне дасканалых каардынацыйных механізмаў, якія б з'арыентавалі замежныя фундацыі на нашы самыя балючыя патрэбы, зрабілі конкурсы праектаў больш адкрытымі і кантраляванымі.

Была б мая воля, сказаў выступоўца, палову дабрачынных рэсурсаў накіраваў бы ў школьную экалогію, дзе шмат бескарыслівых і адданых людзей-педагогаў. Дзіўна і горка, што некаторыя функцыянеры на зялёнай ідэі «жыруюць», а школьныя летнія экспедыцыі кшталту «жывая рака» не маюць за што набыць фламайстар ці пакласці ў заплечнік юнага прыродалюба сухі паёк.

В.Дранчук зрабіў некалькі прапаноў, якія ўвайшлі ў Свіцязянскую рэзалюцыю.

Чынны ўдзел у сустрэчы на Свіцязі ўзялі і выступілі з дакладамі вядомыя навукоўцы і спецыялісты-экологі **Валянцін Яцухна** («Ландшафтная разнастайнасць. Пагрозы, тэндэнцыі»), **Міхаіл Пісарык** («Доступ да чыстай вады»), **Здзіслаў Мураўёў** («Праблемы і перспектывы беларускай запаведнасці»), а таксама дырэктар пансіяната «Свіцязь» **Аляксандр Сакалоў** («Водна-прыродны ландшафтны комплекс на Свіцязі»).

## Што казалі ўдзельнікі Сустрэчы

**Дзмітрый Ліхута,**
***спецыяліст па кіраванні праектамі, Мінскае прадстаўніцтва Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці***

— Я падзяляю заклапочанасць, якая была выказана. Стан рэчаў патрабуе ад грамадскіх экалагічных арганізацый новых падыходаў і публічнасць ёсць несумненным фактарам больш эфектыўнай дзейнасці — як тых, хто атрымаў грант на праект, гэтак жа і тых, хто аказаў падтрымку. Падставы для расчаравання і занепакоенасці звязаны, як я зразумеў, з адсутнасцю адчувальнага грамадскага экалагічнага руху ў Беларусі. Аднак гэта ёсць перш за ўсё праблемай саміх арганізацый, усіх тых, хто тут сабраўся. Крытычныя заўвагі на адрас фонду ISAR і Каўнтэрпарт дастаткова цікавыя для ўдасканалення практыкі аказання тэхнічнай дапамогі трэцяму сектару. Пагатоў, што фонд ISAR, які два гады не працаваў з беларускімі няўрадавымі экалагічнымі арганізацыямі па праграме малых грантаў, узнаўляе тут сваю дзейнасць па гэтай праграме. У Мінску неўзабаве пачне працаваць прадстаўніцтва фонду на чале з выканаўчым дырэктарам Аленай Лаеўскай. Будзем спадзявацца, што наша сустрэча паспрыяе ўзаемаразуменню і добрым кантактам на карысць зялёнай Беларусі.

**Бярнард Пакульніцкі**,
***настаўнік, кіраўнік недзяржаўнай арганізацыі «Рэгіянальны цэнтр экалагічнага навучання дзяцей і падлеткаў «Зялёная дуброва», Мядзельскі р-н***

— Тут шмат казалі праўды, на якую, шчыра кажучы, я ўжо не спадзяваўся, бо думаў, што справа зайшла вельмі далёка, каб нешта змяніць. Добра, што ўспомнілі пра адказнасць. Вельмі дарэчы. Публічнасць, адкрытасць — гэта ўрэшце рэшт адказнасць; чым больш грамадства ведае, тым выразнейшая і адказнасць, якая ляжыць на тых, хто ад яго імя выступае. Гэта цалкам датычыць і зялёных праектаў.

Вельмі было б добра, каб дапамога экалагічным NGO ішла прама па прызначэнні, без пасярэднікаў. Хацелася б, каб фундатары і грантадаўцы звярнулі больш увагі на рэгіянальныя экалагічныя арганізацыі, што знаходзяцца больш блізка да прыроды і могуць ёй дапамагчы практычна.

Мяне непакоіць тое, што цяперашнім часам з'явілася шмат тэарэтычных арганізацый «зялёных», якія ладзяць семінары, канферэнцыі, арганізуюць паездкі за мяжу, перадаюць інфармацыю і г.д. Такім чынам, напрыклад, узнікае даволі простае пытанне: «А хто возьме ў рукі рыдлёўку і пасадзіць кволае дрэўца?»

**Вікторыя Міхно**, ***аспірантка Нацыянальнай акадэміі навук:***

— Эфектыўнасць грантаўкладанняў мусіць хвалявать насам-перш грантадаўцаў. Мяркую, што ў рэшце рэшт прыйдзе час, калі праграма-донар будзе сама шукаць у Беларусі аўтарытэтную грамадскую арганізацыю і прапаноўваць ёй актуальны праект. А сёння, на жаль, ёсць вялікая рызыка аддаць грошы не ў тыя рукі.

**Насця Неказакава**, ***экалагістка, грамадская арганізацыя «Экарэзістанс»:***

— Трэба стварыць даступныя інфармацыйныя сеткі, каб аваладаць унутранай сітуацыяй, наладзіць дасканалае супрацоўніцтва паміж сабой. Вельмі патрэбны, лічу, акцыі ўзаемнай падтрымкі.

**Сяргей Пульша, *журналіст, газета «Беларуская маладзёжная»***

— Тут прагучала, што мы, журналісты, затужылі па гучных экалагічных акцыях. Рэч крыху не ў тым. Я скажу інакш: перш-наперш мы чакаем добрых цікавых праектаў, з якімі можна працаваць прэсе.



Рэзалюцыі Круглага стала

## Аб утварэнні Асацыяцыі недзяржаўных экалагічных арганізацый і грамадскіх ініцыятыў Беларусі

1. Стварыць Асацыяцыю недзяржаўных экалагічных арганізацый і грамадскіх ініцыятыў Беларусі.

2. Лічыць задачай Асацыяцыі каардынацыю дзейнасці экаарганізацый на платформе Стратэгіі экадзеяння-2000, аказанне арганізацыям трэцяга сектару неабходнай дапамогі ў ажыццяўленні агульнанацыянальных праектаў на абарону наваколльнага асяроддзя і прыроднай спадчыны Беларусі.

3. Для рэалізацыі ініцыятывы даручыць рабочай групе ў складзе пяці арганізацый-удзельніц (газета «Белавежская пушча», група Экаінфарм, Экалагічны саюз, АсДЭМА, Экалагічная партыя) правесці неабходную падрыхтоўчую працу і падсумаваць вынік да 15 студзеня 2001 года.

## Свіцязянская рэзалюцыя

Удзельнікі круглага стала:

- **канстатуюць**, што ў краіне недастаткова задзейнічаны грамадскі чыннік у пытаннях аздараўлення наваколльнага асяроддзя, захавання нацыянальнай прыроднай спадчыны, волявыяўлення людзей у форме пратэстаў (пікетаў, шэсцяў і інш.). Пры гэтым захоўваецца становішча, калі няўрадавыя экалагічныя арганізацыі, нягледзячы на рэальныя магчымасці, не зацікаўлены ў публічнасці сваёй дзейнасці, абмяжоўваюцца справаздачамі перад грантадаўцамі і фактычна закрытыя ад шырокай беларускай грамадскасці
- **лічаць несумяшчальным** з этыкай паводзін грамадскай арганізацыі, калі яе дзейнасць не мае выйсця на шырокую грамадскую думку і сродкі масавай інфармацыі, не выяўляе намаганняў да пашырэння сферы свайго ўплыву
- **звяртаюць увагу** дабрачынных фондаў на неабходнасць адкрытасці і публічнасці праграм-донараў экалагічнага накірунку, якія размяшчаюцца ў Беларусі, на даступнасць і ўдумнасць працэдуры ў адборы праектных прапаноў, азнаямленне шырокай грамадскасці з ходам рэалізацыі падтрыманых праектаў і ініцыятыў
- **звяртаюцца** да журналістаў, СМІ, прэсавых службаў з прапановай шырока знаёміць аўдыторыю з дзейнасцю грамадскіх экалагічных арганізацый, выкарыстоўваць іх незалежную пазіцыю і думку, спрыяць публічнасці і адкрытасці прыродаабаронных ініцыятыў, крытычна ставіцца да выпадкаў, калі арганізацыя існуе на дабрачынныя сродкі, але закрытая ад грамадства
- **выступілі з ініцыятывамі** распрацаваць генеральную схему прыродакарыстання Беларусі, якая затым будзе кантралявацца сябрамі недзяржаўных арганізацыяў; вызначыць стратэгію экадзеяння трэцяга сектара Беларусі на перыяд да 2005 года; вывесці з падпарадкавання выканаўчай уладзе шэраг дзяржаўных экалагічных службаў; склікаць у 2001 годзе Усебеларускі з'езд эколагаў; заснаваць базу дадзеных дзейных экалагічных арганізацыяў, а таксама праграм-донараў і праектаў трэцяга сектару, якія ўжо рэалізуюцца ці будуць падтрыманыя ў бліжэйшай перспектыве
- **прыйшлі да высновы** аб неабходнасці стварыць Асацыяцыю недзяржаўных экалагічных арганізацыяў і грамадскіх ініцыятыў Беларусі (варыянт назвы), якая б планавала і каардынавала дзейнасць зялёнага трэцяга сектару і аказвала арганізацыям дзейную дапамогу ў ажыццяўленні агульнанацыянальных праектаў на абарону наваколльнага асяроддзя і прыроднай спадчыны Беларусі

***Свіцязь, 19 лістапада 2000***

# *Трэці сектар: пяць накірункаў дзейнасці*

2—3 снежня 2000 прайшоў **Кангрэс няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі.** У рамках форуму адбыўся Экалагічны Круглы стол (ЭКС), які цалкам падтрымаў рэзалюцыі Сустрэчы недзяржаўных экалагічных арганізацый на Свіцязі. ЭКС Кангрэса, ухваляючы Свіцязянскую рэзалюцыю, уважыў за неабходнае вызначыцца ў **прыярытэтных накірунках дзейнасці** на бліжэйшую перспектыву.

**Гэтых накірункаў пяць.**

**Выкрыванне любой антыканстытуцыйнай і гвалтоўна-антызаконнай дзейнасці,** якая пагражае нацыянальнай прыроднай спадчыне і шкодзіць навакольнаму асяроддзю, парушае нормы міжнароднага экалагічнага права, тым разам і нормы чалавечага права на жыццё і бяспечнае навакольнае асяроддзе, супярэчыць прынцыпам устойлівага развіцця грамадства і дзяржавы.

**Уратаванне біясфернай і культурна-прыроднай спадчыны на канкрэтнай мясцовасці** з вызначэннем як рэальных пагрозаў, так і ландшафтна-біялагічных каштоўнасцяў і наданнем апошнім статусу асабліва ахоўных тэрыторый і аб»ектаў, у тым ліку мясцовага значэння.

**Вяртанне чарнобыльскай праблематыкі ў грамадскі экалагічны кантэкст** насуперак злачыннаму замоўчванню пытанняў, звязаных з наступствамі катастрофы на ЧАЭС.

**Фармаванне структуры інфармацыйнага забеспячэння** дзейнасці недзяржаўных экалагічных арганізацый з прапановай зрабіць 2001 год Годам адкрытасці і публічнасці зялёных арганізацыйі прыродазаступніцкіх ініцыятыў, а таксама доступу насельніцтва да экалагічнай інфармацыі.

Аб»яднанне і канцэнтрацыя намаганняў на **вылучэнне агульнанацыянальнага экалагічнага праекта** на 2002 або 2003 год.

ЭКС выказаўся таксама за **цеснае супрацоўніцтва з усімі дэмакратычнымі недзяржаўнымі арганізацыямі** ў плане пашырэння дзейных кантактаў і ўзмацнення ўплыву на ўладна-чыноўніцкія структуры дзеля поўнага прыняцця прымальных рашэнняў.



**2001 год** абвешчаны Годам адкрытасці і публічнасці зялёных арганізацый і прыродазаступніцкіх ініцыятыў, а таксама доступу насельніцтва да экалагічнай інфармацыі

## Экалагічныя праекты і недзяржаўныя грамадскія арганізацыі, якія атрымалі гранты (фінансавую падтрымку да 7000 доляраў) ад фонда «Каўнтэрпарт» (САР, ЗША) паводле адпаведнай праграмы

***Незалежная мабільная лабараторыя па вывучэнні якасці пітной вады ў Брэсцкай вобласці***
Арганізацыя: Экалайн (Мінск)
Мэта праекта: Выяўленне праблемных момантаў у забеспячэнні пітной вадой сельскага насельніцтва, выпрацоўка адпаведных рашэнняў
Кіраўнік праекта: **С.Анціпаў**

***Павышэнне ўзроўню эколага-прававой адукацыі грамадзян***
Арганізацыя: Экаправа (Мінск)
Мэта праекта: Павышэнне ўзроўню эколага-прававой адукацыі студэнтаў БДУ, якія вывучаюць права, а таксама дасведчанасці грамадзян у сферы абароны сваіх экалагічных правоў
Кіраўнік праекта: **А.Лаеўская**

***Інфармацыйна-кансультацыйны экалагічны цэнтр***
Арганізацыя: Сацыяльна-экалагічны саюз (Баранавічы)
Мэта праекта: Павышэнне экалагічнай інфармаванасці насельніцтва Баранавіцкага рэгіёну шляхам стварэння інфармацыйна-кансультацыйнага экалагічнага цэнтра, выдання экалагічнага бюлетэня, правядзення семінараў для моладзі і настаўнікаў вучэбных установ
Кіраўнік праекта: **А.Банкевіч**

***Радыяцыйны маніторынг прадуктаў харчавання, навакольнага асяроддзя, сацыяльна-псіхалагічная дапамога і экалагічная адукацыя насельніцтва, якое пацярпела ад Чарнобыльскай катастрофы***
Арганізацыя: Незалежная радыяэкалагічная лабараторыя (Мазыр)
Мэта праекта: Змяншэнне разбуральнага ўздзеяння радыяцыі і захаванне нармальнай жыццядзейнасці насельніцтва, што пражывае на забруджаных тэрыторыях, шляхам павышэння экалагічнай адукаванасці, інфармаванасці пра якасць прадуктаў харчавання і стан навакольнага асяроддзя, захаванне адмысловых норм землекарыстання і харчавання
Кіраўнік праекта: **У. Савенка**

***Радыяэкалагічная адукацыя вучняў у школах Гомеля***
Арганізацыя: Грамадзянская асацыяцыя «Палессе» (Гомель)
Мэта праекта: Павышэнне ўзроўню радыяэкалагічнай адукацыі і выхавання сярод настаўнікаў і вучняў 40 школ Гомеля шляхам распаўсюджвання адпаведнай радыяэкалагічнай інфармацыі і відэаурокаў, правядзення лекцый па радыяцыйнай ахове насельніцтва
Кіраўнік праекта: **М. Дайнека**

**Плёну ў працы і адкрытага дзеяння!**









«У 2000 годзе паміж намі не будзе граніц. Я тады ўжо буду на пенсіі, сяду на ровар і паеду вудзіць рыбу на Беларусь».

***Лех Валенса***, Прэзідэнт Польшчы. Мінск, прэс-канферэнцыя.1994.

«Што да ровара як сродку народнай дыпламатыі, дык я, найнакш, апярэдзіў пана Валенсу на шэсць гадоў»

***Валеры Дранчук***, журналіст. Запіс у нататніку. 1994

# На мінскім ровары да суседкі Польшчы

Адсюль пачынаў свой шлях і тут прыпыніўся цяпер, прыканцы пілігрымкі, каб азірнуцца назад, на завершаны шлях.

Памежжа. Захад сонца. Верасень, 1994.



**Заканчэнне.**

**Пачатак у папярэднім нумары.**

*Лірычны дзённік аднаго падарожжа як настальгічнае развітанне аўтара з Другім тысячагоддзем — насустрач Трэцяму*

Праблема аздараўлення навакольнага асяроддзя і бяспекі жыцця на зямлі куды лепш асэнсоўваецца, калі едзеш на ровары, а не ціснеш на газ легкавіка. Трансгранічнасць падарожжа рабіла гэтую выснову яшчэ больш пераканальнай. Я ехаў спасцігаць суседнюю краіну з глыбіні яе ландшафтаў, матывы якіх унутрана прадчуваў — з паэзіі, музыкі, жывапісу. Я мусіў у гэтым запэўніцца на свае ўласныя вочы: мяне цікавіў пейзаж, асяроддзе, стан прыроды, аблічча мястэчак і вёсак, хутароў, людская аўра.

Раніца сонечная, аж не верыцца, што яшчэ на досвітку за вокнамі шамацеў дождж.

У Харашчынцы – ўтульнай вёсачцы пры лесе – налічыў аж за дзесяць будынкаў, дахаваных саломаю. Свірончык з краю вёскі закарцела нават перамаляваць: зухаватая шапка буслянкі на вільчаку як бы вянчала і саму вёску, і хораша ўплягалася ў яе назву. Некалькі прыватных новабудоўляў,

працяг ст.14

якія, было відаць, каштавалі гаспадарам шматмільённых пазыкаў, сведчылі не адно пра матэрыяльны бок, але і эстэтычны. Стандарты сучаснага жытла гарманічна суседнічалі с этнаграфічнымі рарытэтамі, несучы з сабой новыя і, відаць, не для ўсіх даступныя каштоўнасці.

Каля аднаго асабняка ў асадзе векавых дрэў я спыніў ходу, каб зрабіць фотаздымак. Па шырокай лоджыі паходжвала ў ранішнім цяньку аўчарка, другі сабака велічна палежваў, час ад часу паглядаючы на дарогу. Дзялка сядзібы – сотак дзесяць зямлі – абнесена драўлянай агароджай; запомніліся клумбачкі з яркіх асенніх кветак на роўным зялёным аксаміце пад вокнамі.

Захацелася ведаць, хто ж гаспадар гэтай досыць шляхетнай "нерухомасці" на фоне астатняй, па-вясковаму аднастайнай. Дазнацца не ўдалося, хоць неяк міжволі ўсплыло з пачутага каларытнае слова "варшавяк". Можа, мастак ці пісьменнік, чамусьці падумаў я з натуральнай павагай да творчай варшаўскай эліты. Яшчэ сёння на маёй радзіме могуць пры нагодзе ўспомніць арандатара-варшавяка ці гміннага чыноўца і нават назавуць ягонае прозвішча.

(Толькі праз некалькі дзён, вяртаючыся праз Тучна – суседняе мястэчка, пазначанае на картах, — выпадкова даведаўся, што ў Харашчынцы насупраць драўлянага касцёла прыгожы дом збудаваў сабе сам настаяцель храма. "Усё зрабіў сваімі рукамі" – падкрэсліла кабета з выразным жаданнем засведчыць павагу да "ксенжа".)

Час ад часу трапляюцца воку астраўкі пакінутых хутароў, добра знаёмыя па родных айчынных краявідах. Адчуваю ў кожным з іх боль чужой страты. Так сыходзяць пакаленні не ў адным маім краі. Рэшткі саду, разбураныя падмуркі дома, зарослая сцежка да калодзежа...

Арыентуюся пакуль што на Люблін. Засталіся ззаду вёскі Дабравіца, Тучна, Бакінка Паньска, Пшэхуд. За Пшэхудам паварот на Вішніцу. А гэта, мяркуючы па мапе, дваццаць вёрстаў добрай дарогі.



Дарога нечакана разыходзілася, і я мусіў быў добра падумаць, па якой мне рушыць.

Бярозы ў прысадах, здавалася, блішчэлі пад сонцам свежай пазалотай, трапяткім ценем кладзіся пад колы ровара і, здавалася, кожным лістком ахіналі мой шлях, мае думкі, маю галаву. Рабілася горача, нібы летам, аднак цела астуджваў сустрэчны ветрык. Стаяла цудоўная цёплая восень. Я дзякаваў неба за гэтае вераснёўскае надвор"е, за гэтую дарогу.

Колькі думак-настрояў невеялі вёрсты! Ад убачанага ўпершыню. Ад унутранага душэўнага стану. Часам прабягала трывога, з"яўлялася заклапочанасць, але радасць руху не пакідала, дарога сама і бадзёрыла, і натхняла.

Ровар здольны перабудаваць нашу свядомасць. Напрыклад, калі сядаеш у сядло двухколага вазка-фаэтона, тым самым сцвярджаеш сваю незалежнасць ад прагнасцяў цывілізацыі. Ці не адзін з самых красамоўных момантаў ісціны – момант ігнаравання, адмаўлення пластыкавых ды жалезных шкарлупінаў, што называюцца легкавікамі — з маторам у сярэдзіне, бензінам у баку, выхлапнымі вантробамі? Ровар — гэткі ж здабытак цывілізацыі, што і аўто. І тое, што ён вяртаецца, што ніколі не сыходзіў у цень, гаворыць пра геніяльнасць яго вынаходства. Аднаўленне бяспечнага асяроддзя сёння трэба звязваць і з вяртаннем ровара ў наша жыццё і наш побыт.

За Вішніцай павярнуў на Парчаў і дзесьці за Гарадзішчам, аблюбаваўшы з "вышыні палёту" прыдарожны зацішак, перапыніў ходу. Выпрашыў паляжаць на траве, пад цёплым паўдзённым сонцам, у лагодзе бабінага лета. Я мог дазволіць сабе толькі кароткі адпачынак, у якім знайшлася хвіліна для салодкага сну.

Парчаў, перш чым здзівіць мноствам крамак, эстэтыкай цэнтральных вулак, багатымі прадуктовымі прылаўкамі, пакідаў уражанне горада з мазолістымі рукамі. Яго працоўная біяграфія лёгка прачытвалася ў бясконцым ланцужку прахадных і вытворчых двароў. У прадуктовых крамах было ажыўлена, але без чэргаў. Цэннікі ў пераклaдзе на даляравы эквівалент былі часам блізкія да нашых, часам — шмат лагаднейшыя. Але найперш радаваў разнастайны дабор, перад якім не грэх было і раскашэліцца. Я меў у кішэні колькі "тысёнцаў" злотых, на якія ў мясцовым банку памяняў 10 даляраў...

У Камёнцы — мястэчку непадалёку Любліна — меў шчаслівы неспадзеў піць гарбату ў сям"і Кожухаў. Завітаў да іх позняй гадзінай, кіруючыся правілам — пытацца начлегу ў мясцовага старасты. Першапачатковая насцярожанасць саступіла месца гасціннасці старых. І святло ў вокнах іх пракаветнага, але яшчэ моцнага ладнага драўлянага дома ля рынку гарэла за поўнач. Пан Браніслаў раскладваў рэліквіі — сведчанні яго чыннага ўдзелу ў грамадскіх ды касцёльных справах. Паказаў і фотаальбом, дзе і яго, і пані Стэфу я ўбачыў у дзень вяселля. А ў гэты самы час па варшаўскай тэлевізіі шырока і горача дыскутавалася тэма ўжывання кантрацэптыўных сродкаў, выклікаючы ў







***Цуд пазнання чужой краіны, няхай сабе зусім блізкай, суседняй, аднак незнаёмай увачавідкі, быў увасабленнем удачы і шчаслівага моманту.***

маіх суразмоўцаў жывую і зацікаўленую рэакцыю на агульнанацыянальную праблему.

Калі клаліся спаць, я скінуў футболку. Пані Стэфа заўважыла ў мяне на шыі крыжык, падышла і радасна мяне абняла... Назаўтра раніцай, калі пакідаў дом Кожухаў, было прыемна адчуць, што тут я быў неспадзяваны, але жаданы госць.

Ад пані Стэфы пачуў пра замак Замойскіх і мусіў вярнуцца: вёску Казлоўку, што ў трох вёрстах ад Камёнкі, я праехаў амаль ноччу і не зглядзеў у чорным вянку дрэў выдатнага помніка архітэктуры.

Пазараніўся. Стрэлкі гадзінніка паказвалі толькі на сем, сонца ледзьве ўскараскалася на дахі будынкаў, сілуэтамі пазначаных на гарызонце."Палац яшчэ не працуе,— ветліва сказаў паліцыянт, паказваючы на свой ручны гадзіннік. — Але пан можа прайсці паглядзець, калі хоча".

Я прайшоў прасторны брукаваны двор, амаль да каменьчыка закрыты ранішнім ценем, агледзеў прыгожы фасад і нырнуў у арку, з якое ўжо каціласся сонца. Гэта была процілеглая, усходняя палавіна вялікага двара, ціхая, з выдатным дагледжаным паркам, сцяжынамі, лаўкамі, кветкамі. Сям-там сярод алей ужо шчыравалі даглядчыкі, падтрымліваючы бляск і парадак на гэтым астраўку ўратаванае старасвеччыны.

А я тым часам займеў шчаслівую магчымасць заставацца сам-насам з утульнай прыбранасцю ды задуменнай раскошай прасторна-велічнага двара музея. Промні, яркія ад чысціні і сінечы неба, запалілі чырвоную кару старых хваін, выхапілі рудыя чубкі ў каштанавых кронах, светлымі плямкамі пазначылі высакародную існасць ліпавых алей.

Цішыня рассцілалася зыркім аркушам раніцы па сцяжынках, на якіх не ўбачыш і смяцінкі, па мурожнай траве сярод дрэў, па клумбах у полымі позніх ружаў. Пад ногі ўпаў арэшак каштана, які я падняў на ўспамін. А на ствале суседняе хвоі агністаю стрэлкай праскакала вявёрка... Да адкрыцця музея заставалася тры гадзіны, але іх я ўжо бавіў у дарозе на Міхаў, не маючы часу на пачаканне.

Люблін застаецца ў баку. Трымаю курс на Пулавы. Праязджаю міма заправачных і цешуся з таго, што выпаў шанец не знацца з патрэбаю ў гаручым – педаллю на радасць душы, не чуючы асабістай віны перад боскім улоннем навакольнай прыроды.

А вось сельскія крамы — так званыя склепы "спажывчэ" — не мінаю, забягаю прагнаць смагу, купіць жуйку альбо невялікі сувенір дахаты. Да незнаёмца тут часам праяўляюць цікавасць. "Цо, пан, на ровэры?.." Успрымаюць падарожжа як дзівацтва, маўляў, вельмі "ценжка". І паўсюль – зычлівыя ўсмешкі, добрае слова на дарогу. Заўважаю, што люд польскай глыбінкі вельмі ўжо блізкі да нашых людзінаў, прынамсі, маючы на ўвазе маё роднае стаўпецка-




Такія вывескі ў польскай правінцыі рэч даволі тыповая, што ў нас, на жаль, практыкуецца мала (рэклама прыватных паслугаў). Спадабалася таксама прыдарожная рэклямка мясцовых кажушнікаў: і вырабляюць, і шыюць, і бяруць на камісію.

нясвіжскае памежжа, — зычлівасць і ветласць. Адно што розніла — куды лепшы фізічны выгляд суседзяў, іхняя здаравейшасць. Я нідзе, аніразу не сустрэў гэткай пагібельна безнадзейнай спітасці мужыкоў, як у нас.

Апроч касцёлаў, каля якіх рэдка дзе не спыняўся, мінуў каля сотні ці болей каплічак. Рознай велічыні, рознай архітэктуры. Напрыклад, была каплічка, пазначаная імем фундатаркі. З электрападсветкай, у мігатлівым німбе-вяночку. З запаленай лампадкай. (Калі вяртаўся назад, дужа запазніўшыся, уцякаючы ад цемрадзі ночы, гэтая ж каплічка паслужыла мне маяком, па якім дакладна вызначыў патрэбны паваротак на Бакінку Паньску, дзе мяне чакалі на начлег). Капліцкі зазвычай стаяць ва ўтульнай прыхінутасці да дрэў, пераважна ліпаў, альбо ў прыгожай засені бэзу, шыпшыны і г.д. Давялося бачыць капліцы — сапраўдныя збудаванні з цэглы і гіпсу — на прыватных сядзібах, што, бадай, зусім нязвыкла для нас, беларусаў. Мне ж падалося гэта новым, загадкаванязведаным і надзвычай прывабным атрыбутам сямейнай традыцыі. Там, дзе гэта да густу і месца, вельмі няліпне ўзносіць такія капліцы альбо крыжы, выяўляючы гэтым самым аддансць гаспадароў вызначаным нормам боскай маралі.

Нішы з выявамі Маткі Боскай, Ісуса Хрыста можна было зглядзець у сценах жылых дамоў, за шклом на камлях дрэў ды шмат дзе яшчэ. Прысутнасць бажаства ў прасторы, даступнай падарожніку, — знак асаблівы, ён асвятляў мой шлях, навяваў мне думкі пра вечнае, яднаў з Сусветам.

Лугі ў копах атавы. Светлапразрыстая далячынь у прырэчнай красе. А рэчка, відаць здалёку, каналізаваная. Вось і масток. Спыняюся. Рэчышча глыбакаватае. Месцамі нават шырокае. Берагі акуратна выкладзеныя дубцамі нейкага дрэва. Праз кіламетры два яшчэ адзін мост — большы над большай вадой. Дзесьці недалёка — рака Бебш... Міжволі параўноўваю плён меліяратараў. Каналізаваныя прытокі Нёмана ўжо амаль без вады.

■ працяг ст.18



Вяртанне ў снег XX стагоддзя.
Фота: Валеры Дранчук
(АрСтудыя «Краявід»)

**Цішка Гартны**
(1887-1937)

Неба і зямля

Хоць чароўна ты, неба, ўсягды,
Хоць ты пекна ў сваёй вышыне, —
К тваёй высі туды
Ўсё ж не хочацца мне.

На зямлі на халоднай, сырой,
Дзе ні зораў, ні сонца няма,
Дзе — нядоля і цьма,
Я шчаслі́ўшы душой.

У красе у тваёй усё спіць,
Як бы спалена страшным агнём,
На зямлі ж б'е, кіпіць
Жыццё бурным руччом.

**Якуб Колас**
(1882 – 1956)

Каляды
(паэма "Новая зямля")

Прыйшлі піліпаўкі, Мікола,
Дзянькі праходзяць больш вясёла,
Бо хоць зіма і крэпіць дужа,
І хоць бушуе яе сцюжа,
Бы тое дзікае ігрышча,
І вецер жудасна засвішча,
Як на дудзе ці на кларнеце
На нейкім злыдневым банкеце, —
Ды ўсё ж святлеюць даляў вочкі
І іх бялюткія сарочкі.
Ёсць хараство і ў гэтых зімах
І ў мёртва-белых тых кілімах,
Што віснуць-ззяюць хрусталямі
Над занямелымі лясамі,
Калі ў агністым мароз троне,
Ў крывава-барвавай заслоне
Над светам рукі ціха ўздыме
І зачаруе, ўсё абніме;
А як усходзіцца завея,
І вецер з снегам задурэе,
Ды затрасецца віхрам белым!..
Эх, колькі волі ў руху смелым!
—Гуляй, зіма, твая часіна!
Ды скора будзе палавіна,
А там цяплом табе павее;
А ўдзень і сонейка прыгрэе! —
Паддасць, бывала, дзядзька руху,
Пачуўшы холад-завіруху.
Ад гэтых слоў лягчэй на серцы,
Бо ўсё ж маркотны, вы, каберцы
Зімы халоднай і мярцвячай,
І ласкі хочацца гарачай,
Вясны душа твая жадае,
І ў сэрцы радасць расцвітае
Ад аднае ўжо толькі думкі,
Што гэта зімка збярэ клумкі
І пойдзе-знікне на паўгода,
І зноў ажывіцца прырода.







**Уладзімір Някляеў**

* * *
У сферных люстрах плаўных небасхілаў
Абвалы зор і роўны рух снягоў
Пад поўняю, што вёслаў не згубіла
Над водамі, што выйшлі з берагоў.

Свет шырыцца да незанятых ніш
І ў пустату закідвае насенне,
Што прарасце маланкамі паміж
Самаз'яўленнем і самазнікненнем.

Бясконцае ствараецца бясконца —
То скручваецца ў ніць на верацёнца,
То рвецца на спіралі і кругі,

Як гэта высь халодная, нямая,
Як гэта плынь, што берагоў не мае
І шырыцца — шукае берагі.

**Пеё Яявараў**
(1878-1914)

* * *
Выццё нясецца! — Бунт Падвея…
Бушуе снежная завея,
Мацнее вецер і мароз:
То з дзікім шалам залапоча,
То гнеўна, грозна зарагоча,
То аж завые да нябёс…

Здаецца мне, што не кудаса
Бяздонным горлам вые басам,
і вар'яцее, і крычыць,
а цэлы свет наш у палоне,
надзьмуўшы грудзі, цяжка стогне
і знемагае па начы…
1899

***Пераклад Васіля Сахарчука***

**Тацібана Акэмі**
(1812-1868)
Японія

Аднойчы, калі маркотна
Колькі таго, што мне трэба!
Верны сябар для шчырай гамонкі
Ды навакольны пейзаж, на які
Мог бы ўдзень і ўначы любавацца

Святло Грамнічнай свечкі…

Фрагмент фатаграфіі.
З сямейнага альбома.
30-я гады.

***<u>Анталогія ў перакладзе з грэцкае мовы значыць букет кветак. Старажытныя грэкі так называлі зборнікі выбраных твораў паэзіі</u>***

**Яўгенія Пфляўмбаўм**
З М. Агарова

Прырода па даўнейшаму — натура,
Не мачыха, не маці, проста дура!
І родзіць, і руйнуе напавал,
І ўсё адно ёй — смерць або радзіны,
А чалавек тут мэты адшукаў,
Ды нават і разумныя прычыны.

Дарма! Ні сэнсу, ні развагі ў ёй няма,
Ідзе сабе сваёю каляінай…



**Аркадзь Астаповіч.**
Зіма ў лесе.
1921.
Туш. 18 х 24.
Збор Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

**Анатоль Вярцінскі**

* * *
Домік маленькі,
бачу я, знеслі.
А ў доміку гэтым
спявалі песні.
А ў доміку гэтым
дзяцей нараджалі.
А ў доміку гэтым
гасцей стрчалі.
А ў доміку гэтым,
у доміку гэтым
утульна было
зімою і летам.
Шкада мне да болю,
шкада да слёз
доміка, што пайшоў
на знос.
Не тое лепшае,
што навейшае,
а тое лепшае,
што раднейшае.
Не тое лепшае,
што вышэйшае,
а тое лепшае,
што бліжэйшае,
не тое лепшае,
што прыгажэйшае,
а тое лепшае,
што даражэйшае…
Той домік
блізкі некаму быў.
Той домік нізкі
нехта любіў.
З тым домікам
звязаны нечы лёс…
Той домік пайшоў
сягоння на знос.

Вонкава-этнаграфічна вёскі беларуска-польскага паўднёвага памежжа вельмі падобныя, амаль ідэнтычныя. Аднак на польскім бачыш куды больш дагледжаных хутарскіх гаспадарак з ладнымі пабудовамі, сельскагаспадарчай тэхнікай, сажалкамі, тэніснымі кортамі, густоўнымі агароджамі. Іх спрадвечная і разумная аддаленасць ад дарогі надае ландшафту прасторавай маляўнічасці, рассоўвае межы агляднасці. Мне гэта блізкае і дарагое, бо драма ссялення хутароў была не толькі драмай роднага заходнебеларускага пейзажу, але і татальным адчужэннем чалавека ад прыроднага космасу.

Фермерскую ж сядзібу лёгка адрозніш і ў вясковым гурце – выдае падворак, на якім і падвода, і трактар, і прычэп-раскідальнік... Зрэдчас траплялiся на шляху і забытыя богам сялібы, увесь выгляд якіх гаварыў пра цяжкую долю гаспадароў.

Дзядзьку з ровара даю прывітанне кіўком галавы. Той з паклонам здымае шапку.

...У самым сяродку Конскае Волі быў заспеты нечаканасцю неба. З громам абрынуўся такі лівень, што з-пад вялізнага шатровага дрэва побач з велічным гмахам касцёла мусіў праз колькі хвілін хавацца пад стрэшкай газетнага шапіка. Пакуль стаяў, наліччыў каля сарака назваў досыць прэзентабельнай перыёдыкі. Дождж не



Сям'я Паўлікаў. Павал, Альжбета ды іхні сын Дарэк.

Радзень-Падляскі. Скульптурная выява на сцяне жылога дома.

абяцаў супынку, і я прыняў рашэнне ехаць далей: дзве гадзіны вымушанага прастою няўмольна набліжалі да вячэрняй часіны.

У сядле адчуў сілу сустрэчнага шквалістага ветру, які, здавалася, вымаў сэрца. Кіламетры даваліся цяжка. Ды яшчэ абганялі машыны, ехаць было небяспечна. Суцяшала адно – у Пулавах мяне чакалі.

Дождж не сціхае і неба не абнадзейвае. Вузкі мазочак святла на захмараным гарызонце ўжо не пакідае шанцаў, што да цямна раз'ясніцца. Змушаны бавіць час пад якім-небудзь дахам, пераскокваю з крамы ў краму, вывучаю вітрыны ў аптэцы. Нарэшце выбіраюся з цэнтра мястэчка. Пад халодным дажджом выязджаю на ўскраіну. Ваколіцы ў дрэвах, кранутых асенняй барвай. Перачакаць рэшткі навальніцы спрабую на аўтобусным прыпынку. Сям-там у вокнах будынкаў запальваецца святло. Да Пулаваў — чытаю на паказальніку — 12 кіламетраў. Еду!

Светлая палоска на гарызонце зусім знікае. Шэрая слотная далячынь. Дождж і вецер. Мокрая стужка дарогі. Праз дзесяць хвілін на мне не застаецца сухога месца. З мяне сцякае вада. І ў твар сячэ дождж. Але педалюю спакойна і роўна, трымаючыся краю шашы. Адна за адной, абганяюць з шалёнай хуткасцю, на мяне «наязджаюць» фуры. Разумею ўсю рызыкоўнасць свайго становішча, адчуваю нават фізічны страх, калі абгон пагражае пакінуць мяне ляжаць на абочыне; у рэшце рэшт, я за кожным такім выпадкам спешваюся, баючыся пакаўзнуцца і трапіць пад жорсткі валак дарогі, затым зноў сядаю і еду далей.

Спакваля звыкаюся з вадой, макрэчай, халодным сочывам пад адзежай і ўжо з цікавасцю рэагую на змену краявідаў. Аблада непагадзі і шэрага колеру зрабіла ўсё размыта-часовым, расхістаным і бязлюдным, але гэта і ёсць жыццё прыроды, яе стыхія, воля і сіла. Я — маленькі адбітачак яе руху, разумнага пачатку, дзеяння і процідзеяння. У гэтай велічнай панараме я мізэрная рухомая клетачка, заспетая шквальным ветрам і халодным асеннім дажджом. З электраапоры злятае ястрабок і на хвіліну павісае ў паветры, нарэшце, сабраўшыся з сілай, ляціць у бок лесу. Я рады з ім паві-таццa і паглядзець яму ўслед. Як брату. Згледжаны пільным вокам, мой сілуэт, магчыма, патры-вожыў гэту самотную асцярожную птушку, і ястрабок наважыў змяніць сваё месца ў прасторы.

За Віслай пачыналіся гарадскія кварталы з густою шчацінай наземных камунікацый, сецівам вуліц і архітэктурных забудоў. Я выняў нататнік з адрэсай і ў сустрэчнага мінака пад празрыстым дажджавіком папытаўся дарогі. Праз колькі хвілінаў я ўжо адчыняў жалезную брамку, за якой — Матка Боская! — мяне чакалі абдымкі родных, цёплая ванна, гарбата і адзін з лепшых вечароў майго зямнога жыцця.

Цёця Марыя — дваюрадная сястра бацькі — нарадзілася ў Нясвіжскім раёне, у невялікай і добра абжытай вёсачцы Новыя Навасёлкі — з мураваным храмам, старымі могілкамі, з блізкім лесам, рачулкай і раскошнымі поймавымі разлогамі. Бацька — Ігнась Дранчук, Сымонаў сын — быў добрым майстрам, брукаваў накавольныя дарогі, а на чацвёртым дзесятку надумаў разам з братамі — Алесем ды Ясям — займець млын-вятрак, стаць сапраўдным уласнікам-гаспадаром. Хто ж ведаў, што хутка ў іх вёску, у іхні дом, у сям'ю прыйдзе іншы гаспадар — са сваім «говором», у скуранцы, з наганам пры баку. Без усялякага на



На ўлонках сядзібы Яна Каханоўскага ў Чарналесе.

«Дзівна мяста, яка дзівна мяста...»— не сыходзіла з вуснаў Лукашыка




тое права пачне камандаваць у чужой бацькаўшчыне, глуміць людскія гнёзды, ламаць чалавечыя лёсы.

Марозная ноччу сям'ю Ігнася падняліі пад дулам нагана, не даўшы нават дзецям як след абуцца, вывелі ў двор, пакідалі ў сані і гвалтоўна вывезлі з радзімы на далёкую чужыну — у казахстанскія стэпы. У хаце Ігнася, якая дагэтуль стаіць на самым пачатку вёскі, размясціўся сельскі савет і пошта. Да свайго разбуранага гнязда ўжо ніхто не вярнуўся — праз колькі гадоў ліхалецця сям'я пакінула Казахстан і падалася на родны Захад, бліжэй да сваіх лазнякоў, лугоў, пералескаў. Другой радзімай ім стала Польшча. У Пулавах пахаваны Ігнась, памёр і адзіны сын Рэнік, сёстры Марыя, Геня і Ніна жывуць у розных гарадах: Марыя ў Пулавах, Геня ў Грыфіне, што пад Шчэцінам, Ніна ў Эльблёнгу. Але пра ўсё гэта з цёцяй Марыяй мы не гаварылі ў першы вечар сустрэчы. Абменьваліся апошнімі навінамі ды цешыліся болыш з таго, што род, да якога належым, жыве, і жыве Беларусь, з якой я прывёз крыху падарункаў, крыху прывітанняў.

Марыя сялібуе ў прыватным сектары горада з мужам, сынам-студэнтам ды старэйшым сынам, які ўжо мае сям'ю і займае другі паверх прасторнага домасабняка.

З першых хвілін гасцявання я ўражаны цішынёй і спакоем, якія пануюць у сцянах дома. Магчыма, гэта з увагі на пяцімесячнае немаўлятка, магчыма, гэтак заўсёды. Гледзячы на Марыю, усмешліва-годную, сціпана-рацыянальную, ветлую, думаю, што так заўсёды. Яшчэ раблю выснову, што цётка — выдатная гаспадыня, у якой усё пад рукой, быццам клавішы ў піяніста, і кожны гук — ці то голас унучка Лукашыка на «застрэшку», ці то сквірчэнне ў мікрахвалёвай печы — ёй роўна падуладны, як падуладна ўсё тут, — гэта яе дом, у якім яна знайшла сваю долю, сваё чалавечае шчасце.

Дазнаюся, што Тадэвуш Ружэвіч, да якога я спяшаўся на сустрэчу ў ягоным родным Радаме, даўно мае іншую прапіску і ў Радаме не жыве. Зрэшты, часткова мы ўжо сустрэліся: шматлікія краявіды чамусьці надзіва лучыліся з позіркам ягоных вачэй на фатаграфіі аднаго з кніжных выданняў. Ён праводзіў мяне дарогамі польскай правінцыі і час ад часу нашэптваў свае радкі.

Марыя прапануе кампрамісны варыянт: наведаць музей паэта Яна Каханоўскага ў Чарналесе ды паглядзець на Прывіслeнскія ваколіцы. Праўда, з ровара мне давядзецца перасесці ў пляменнікавы легкавік ды часова ахвяраваць асабістай самотай. Удзячны за прапанову, я выказваю жаданне наведаць перадусім магілу дзеда Ігнася.

Раніца ў барвах і сонечным бляску. Лукашык, урачыста дасведчаны, абвяшчае: едзем да «дзядэка», там ён, Лукашык, запаліць свечку.

Калі на гранітнай пліце запалымнеў трапяткі агеньчык і мы — Лукашык, Ірэк, Марыя ды я — сцішыліся ў кароткім маўчанні, я ўспомніў магілкі ў Новых Навасёлках, разбураны касцёл ды хату Ігнася. Можа, той даўні, далёкі парог Радзімы ўспомніла і Марыя, стоячы зараз побач з магілай бацькі.

Творчасць Яна Каханоўскага я збольшага ведаў. На кніжнай паліцы ёсць добра выдадзеная кніжыца перакладаў з ягонай польскай



Каля апошняга схову дзеда Ігнася я ўспомніў ягоны млын на пагорку і вялікае сонца на параненым крыле.

на рускую. Праўда, з першага знаёмства мне надзвычай заімпанавала ягоная «чарналясасць», гэткая лірычна-пашанотная дэкларацыя «навек застацца ў спадчынным гняздзе».
Паэт застаўся.

На «спадчынных» сцежках сядзібнага саду і ў залах музея надзіва шматлюдна. Я рады, што з намі Лукашык, што трапяткая дзіцячая памяць, магчыма, перахавае гэтыя ўлонкі, на якіх адлюстравалася і мая прысутнасць — беларускага дзядзькі-вуйшэка, які прымчаўся ў Пулавы на ровары, каб падахвоціць гэтую імпрэзу, гэты шпацыр, і гэтую лучнасць.

Ідучы паперадзе, Лукашык аб нечым услых разважае ды час ад часу паўтарае на ўцеху дарослых:

«Дзівна мяста, яка дзівна мяста…»

Нядзеля. Пакідаю гасцінны дом, развітваюся з Пулавамі. Цёця Марыя праводзіць мяне на дарогу, мы ўдваіх падымаемся на гару, з якой бачу вохрыста-жоўтую ўскраіну горада, стужку шашы ды паліпералескі ў панараме новага, насцеж расчыненага дня. Мяне чакае шлях назад, дадому, да сваіх родных разлогаў, вуглоў і парогаў.

«З гары лягчэй» — падбадзёрвае цёця Марыя. «А там, глядзіш, і дом блізка», — жартую і я ды рашуча бяру разгон. Азіраюся, цёця Марыя глядзіць яшчэ ўслед, махае рукой. Ці стрэнемся калі зноў? Невядома. Беларусь — не лагодная маці…

Мінаю Жэжын, Блішчэцін, Гурку, Чамярнікі, Міхаў… У ваколіцах Коцка, на ўлонках поймавай разлогі ў мяккім пухавіку азярода няблага праспаў ноч. На самым досвітку, праўда, пабудзілі сабакі з бліжэйшага хутара, але брахалі яны не ў мой бок.

У Радзені Падляскім нетаропкую хаду па горадзе чаргую з сядзеннем у скверыках, дзе шмат моладзі, ды цешуся з кубачка духмянай кавы на ўспамін. Наведваюся ў кнігарню і велакраму, дзе мяняю абутак — старыя красоўкі на новыя.

Аб шаснаццатай гадзіне выбіраюся з горада і набіраю хуткасць. Галоўнае, пакуль не сцямнее, даехаць да Бакінкі Паньскай, дзе мяне запрасілі на начлег спадар Павал і спадарыня Мар'яна, — гэта прыкладна паўсотні кіламетраў.

У Вішніцы мяне застае глыбокая ноч. Колькі гадзін давядзецца ехаць праз цемру. Пасля Радзеня я амаль не спыняўся, хоць так хацелася дзе-нідзе спешыцца, зрабіць здымак цікавага дрэва або краявіду. Але падганяў надыход начы і я пакорна прымаў яе мірны канвой.

***Сустрэчны вецер, здавалася, вымаў сэрца. Кіламетры даваліся цяжка. Абганялі машыны, ехаць было небяспечна. Суцяшала адно – я набліжаўся да сваёй кульмінацыі.***

Ці даеду на Бакінкі Паньскай? Упэўненасці менш ды менш. Трывожна ўглядаюся ў цемру дарогі ды зацята педалюю — наперад. Кожны агеньчык саграе надзеяй. Але надзеі — адна за другою — гаснуць. Нават там, дзе, здавалася б, мяне зачакалася ўдача.

Хутар за бярэзнікам. Свеціць акно. Сцежка, штакетнік, брамка. За брамку не іду. Вітаюся з двара і прашу каго-небудзь выйсці. З сенцаў жанчына адказвае, што адчыняць баіцца і не мае намераў пускаць падарожнага. Голас прыемны і досыць ветлівы. Я прабачаюся, зычу «дабранач» і пакідаю хутар.

«Гэта твой выбар» — нагадваю сам сабе, гледзячы ў ноч. Зноў дарога і чорныя здані прысадаў абапал. Як далёка мая Радзіма, мой хутар!

Праз кіламетры два спыняю хаду і зварочваю на асветленую сцяжыну. Увесь дом у агнях, святло на ганку і ў вокнах. На другім паверсе адчыняецца насцеж акно. Спачатку бачу сабачыя лапы і лёгка пазнаю морду сенбернара. Зычнае «гаў». Выдыхаючы ў паветра прыкметны парок, сабака брэша ў цемру, затым на мяне. Дыялог з няпрошаным госцем закончаны. Акно зачыняецца, нарэшце, з'яўляецца постаць гаспадара; ён зашторвае акно і ягоны сілуэт знікае ў глыбіні пакоя. Праз хвіліну, калі я ўжо паспеў адысціся, бразнулі дзверы і той жа чалавек з ганку патлумачыў мне, што даць начлег мне не можа, але праз кіламетраў восем-дзесяць я змагу заначаваць у Бакінцы Паньскай. І даў яшчэ адну параду: ехаць трэба ўважліва, каб не прамінуць паварот, бо мястэчка ўбаку, яго можна не згледзець.

Крыху весялей. Здаецца, і колы зусім па-іншаму закруціліся, заспявалі.

Але ў галаве ўжо другая думка-трывога: толькі б не ўклаліся спаць мае зычлівыя знаёмцы. Будзіць сярод ночы?..

Паварот на Бакінку шчасліва ўгадваецца знічкай знаёмай прыдарожнай каплічкі з пазначаным імем фундатаркі. А праз сотню метраў за рэдкім ляском замігаў ратаўнічым святлом хутар Паўлікаў: гаспадары не спяць.

■ Працяг стар.22





# На мінскім ровары да суседкі Польшчы

## Замалёўкі з заплечніка

***З першых кіламетраў сваёй вандроўкі я час ад часу спыняўся, каб задаволіць уражанае вока імгненнымі накідамі ў блакноце. Часам даводзілася замалёўваць з памяці — калі спыніць хаду не давалі якія-кольвек нязручнасці ці падганялі начныя прыцемкі і ехаць трэба было не азіраючыся. Дзесяткі ці, можа, сотні ўражанняў так і засталіся прамільгнутымі, неўвасобленымі ў здымках або замалёўках; толькі зрэдку ўспаміны выхопліваюць адрэзак дарогі, стан дня, вясковы краявід, вечаровыя сілуэты...***

V.D.



Насценны гадзіннік. Музей Яна Каханоўскага ў Чарналесе.



Сядзіба ў ваколіцах Блішчэціна.



Музей Замойскіх у Казлоўцы. Каваная выява на замкавай браме.



Уваход у замак (Казлоўка).



Масток праз меліярацыйны канал.

## Замалёўкі з заплечніка



Буслянка на камунікацыйнай апоры.



Прававетнасць сярод сучаснага. Свіран у Кодані.

Патомны земляроб Фелікс Сахарчук на дзялянцы сваёй зямлі ў дзень засевак. Верасень, 1994



**Працяг** са стар.20

Спадар Павал, як толькі я дапіў апошні глыток гарбаты, нечакана распакаваў свежую, з нядзельнага базара, сямейную пакупку. Гэта былі табурэткі гомельскай вытворчасці. З жоўтага слоенага дрэва, лакіраваныя. Я прапанаваў зборку, і Павал вомегам падаў адвёртку і малаток. Прапанова была дарэчы, бо нават Мар'яна, забыўшыся на сон, далучылася да нашай мужчынскай кампаніі. Тры табурэткі мы хутка паставілі на ногі, а з апошняй здарыўся казус: некамплект. Бракавала патрэбнай гайкі. Але Павал не пакрыўдзіўся на беларускага камерсанта. Папершае, мае з ім сталы кантакт, а падругое, рэч даспадобы і досыць танная. Увогуле, Павал аптыміст. Пасля гомельскіх зэдлікаў марыць ашчасьлівіць сябе і Мар'яну беларускім «тэлевізорам» ды гэтым самым з'эканоміць кроўных злотых, бо «ўсё ж на мільёны». Адчуваю, што зарабіць іх Паўлікам пакуль што нялёгка. Філасафічная Мар'яна так сфармулявала сваё разуменне спраў: каму было добра, стала яшчэ лепш, а каму было «ценжка», лягчэй не стала.

Мой ровар Павалу спадабаўся тым, што на выгляд просты і трывалы і здатны для зручнага ўжытку. Як тыя ж гомельскія табурэткі. Як і ўсё ў яго-най гаспадарцы, на якой дужа стаміліся яго рукі, прысталі ногі .

Сустрэча за Бакінкай Паньскай. Стары стрыхар, які жыве з дзедаўскага занятку— дагэтуль кладзе саламяныя стрэхі (заўважце: не якую-небудзь металачарапіцу), жартаўліва ўспамінае, што было за камунаю і што пасля. «За камунаю,—кажа,— рабілі, пілі і спявалі, цяпер толькі п'юць». Яго маладзейшы калега задаволены пераменамі і пагрозу бачыць у старых звычках:»Адно каб не кралі».

***...Едучы, я вітаўся з усімі ратаямі, коннымі і маторнымі, што працавалі на вольных загонах. Часам здавалася, што і я на гэтай дарозе не проста кручу педалі, а, кіруючы, ганю сваю бясконцую баразну скрозь цалік-неруш, што і я – араты на гэтай прасторы пад вечным сонцам бабінага лета. Самотны й нястомны ў сваім намаганні, ў сваёй узрушанай зачараванасці. Гэтак вярста за вярстой, плужок мой не пакідае вонкавага следу – след застаецца толькі ў маёй душы ды, напэўна, у памяці.***

У ваколіцах Коданя вока чапляецца за раўнюткае, быццам стол, поле. Па чыстай, без адзінага каменьчыка раллі, цюпае гнеды конік, запрэжаны ў сеялку. Прыгадваю малюнак са старой хрэстаматыі і дастаю з сумкі фотаапарат. Перад наступнай прагонкай, развароч-ваючы свой паслухмяны агрэгат, гаспадар заўважае маю цікавасць, спыняецца. Знаёмімся. Фелікс Сахарчук. Працаваў на пякарні, жонка ў мясцовым банку. Колькі помніць бацьку, той увесь час на зямлі. Калі бацькі не стала, клопат па гаспадарцы Фелікс ўзяў на сябе. Мае трыццаць гектараў зямлі, трактар, сякі-такі інвентар. Паказваючы на коніка, зазначае: «Вельмі файны памочнік! Каб не гвалціць зямлю, не ўбіваць яе коламі трактара, запрагаю ды ціха сею з канём». Побач стаялі два поўныя мяхі жыта. На выпадак была прыхоплена і сявенька з фанерным донцам.

На развітанне бяру хатні адрас, каб даслаць Феліксу фотаздымак. Ён пытаецца, колькі будзе павінен за гэта пану, чым заплаціць. «Добрым ураджаем!» — адказваю.

**І мы развітваемся.**

**1994--2000**



Фота аўтара

INSTYTUT POLSKI

*Аўтар выказвае шчырую ўдзячнасць Інстытуту польскаму ў Менску за падтрымку ў ажыццяўленні публікацыі.*









# браткі беларусы!



***Вясна на падворках...*** *Вітайце буслоў, што вярнуліся ў край наш, лясны ды азёрны, да роднае хаты, да мілага ўлоння прыроды.* ***Ладкуйце буслянкі.*** *Цягніце на дрэвы, на вышы будынкаў бароны ці колы з падводаў – розначсялякі прыдатны рыштунак.* ***Хай ведаюць птахі:*** *на гэтай зямлі іх заўсёды чакаюць. Хай кожны, хто шчасця жадае сабе і нашчадкам,* ***саўе яго разам.***

Штогадовая акцыя "Дзень Зямлі" (21-28 красавіка) мае сёлета вельмі выразную асаблівасць – у новым стагоддзі і тысячагоддзі яна будзе ладзіцца ўпершыню. А гэта абяцае крышачку больш патужнасці і воля-выяўлення з боку грамадства дзеля прыроды і навакольнага асяроддзя. Шэраг экалагічных арганізацый абвясцілі кампанію **"Адкрытае дзеянне-2001"** супраць тэндэнцыі разбуральнасці сучаснага жыццяладу, за ўсталяванне дэмакратыі і выбары новага беларускага прэзідэнта, які б шанаваў Беларусь і яе каштоўнасці. Дэмакратычныя перамены мусяць ісці поруч з прырода-ўратавальнымі дзеяннямі і гарантаваць захаванасць прыродных каштоўнасцяў і ахову навакольнага асяроддзя.

Фота: Вільгельм Дубіловіч (АрСтудыя "Краявід")

«Душа без роднай мовы - гэ а кветка без каранёў, гэта разбітая скрыпка, пусты дом...» *Вацлаў Ластоўскі*

*Будзьце багаславёныя вусны, што прамаўляюць па-беларуску*

VD Фотаплакат

# Магутны Божа

## *Беларускі Дзяржаўны гімн XXI стагоддзя*

*Магутны Божа! Ўладар Сусьвету,*
*Вялікіх сонцаў і сэрц малых!*
*Над Беларусяй ціхай і ветлай,*
*Рассып праменьні свае хвалы.*

*Дай спор у працы штодзённай, шэрай,*
*На лусту хлеба, на родны край,*
*Павагу, сілу і веліч веры*
*У нашу праўду, у прышласьць — дай!*

*Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,*
*Учынкам нашым пашлі ўмалот!*
*Зрабі магутнай, зрабі шчасьлівай*
*Краіну нашу і наш народ!*

Mahutny Boža! Ŭładar suśvietaŭ,
Vialikich soncaŭ i serc małych!
Nad Biełarusiaj, cichaj i vietłaj,
Rassyp pramieńni svaje chvały.

Daj spor u pracy štodziennaj, šeraj,
Na łustu chleba, na rodnyj kraj,
Pavahu, siłu i vielič viery
U našu praŭdu, u pryšłaść — daj!

Daj uradlivaść žytniovym nivam,
Učynkam našym pašli ŭmałot!
Zrabi mahutnaj, zrabi ščaślivaj
Krajinu našu i naš narod!

**Музыка**
*Міколы Равенскага*
**на словы**
*Наталлі Арсеньневай*

Рэштки храма ў вёсцы Новыя Навасёлкі Нясвіжскага раёна.
Фота: Валеры Дранчук.
Сакавік 1999.

Знайдзіце ў песнях *сваю Беларусь!*

Для мяне гэта мелодыя Высокага Неба і — адначасна — высокіх пачуццяў да нашай Радзімы, да Бацькаўшчыны. Зразумела, чаму гэты велічны спеў не стаў дзяржаўным гімнам у 91-м ці ў 92-м. Яго баяліся. Калі б ён загучаў на ўсю моц, на ўсю нашу краіну Беларусь, я не ведаю, што было б сёння. Гэта так, як паводле тэкста, — сіла духу і веліч веры. Калі на тое, дык гэта Крыж Ефрасінні Полацкай нашай, які не трэба шукаць, бо яго не скралі, — бяры і спявай.

Тыя людзі, якія цяпер пры ўладзе, гатовыя ў струнку стаць пад мелодыю Аляксандрава і заадно паставіць на калені нашу краіну і наш народ. Нават калі яны гэта зробяць, «Магутны Божа» не змоўкне, будзе гучаць.

Беларусы павінны і нават абавязаны ведаць, які скарб яны маюць. Каб не скарыцца і не стаць на калені перад іншай сілай — сілай маны, яны мусяць спяваць свой гімн. Стоячы, гучна, пры кожнай нагодзе.

У нашым доме «Магутны Божа» гучыць штораз, калі адзначаем сямейныя святы, асабліва дні нараджэння, а таксама Каляды, Вялікдзень. Усё пачалося чатыры гады назад, калі ўнуку споўнілася шаснаццаць. Мару і ціха малюся за тое, каб гэты магутны спеў стаў гімнам краіны, каб Беларусь расквітнела І ўзгадавала гарачых патрыётаў Бацькаўшчыны.

*Распавяла*
***Ірына Рымашэўская,***
*настаўніца пачатковых класаў, на пенсіі.*
Станцыя Гарадзея,
Нясвіжскі раён









**Павел Буська.**
**Апошні бортнік Белавежскай пушчы.**
**1930-я.**
Са спадчыны Яна Ежы Карпінскага (1896 - 1965).
Бібліятэка Белавежскага нацыянальнага парку.
Фотарэпрадукцыя.

# Пытайце ў *кнігарнях*, *замаўляйце* ў бібліятэках

## *Новыя выданні, якія могуць вас зацікавіць*


Сухая яліна. Белавежская пушча. 1997

Рубрыка «Экслібрыс» мае быць папулярнай—такі прагноз можна лёгка зрабіць паводле першых чытацкіх водгукаў. Даводзім да ўвагі, што рэдакцыя карыстаецца звесткамі гандлёвага аб'яднання «Белкніга» і ў звязку з гэтым (пры выпадку, калі выданне Вас зацікавіла) звяртайцеся ў бліжэйшую кнігарню або зкантактуйцеся з Мінскам: 222-90-73.

*М. Федзюковіч, Ул.Гардзейка і інш.* **Радыяцыя, нітраты і чалавек.**—Мінск, выд. «Ураджай», 1998.—112 с., 2-е выданне.

У прадмове добрыя словы пра «зялёных» (мабыць, замежных, бо сваіх не чуваць): «Яны бяруцца давесці да свядомасці грамадскасці тую інфармацыю, якая з той або іншай прычыны не заўсёды выдаецца афіцыйнымі ўладамі». У кнізе папулярна выкладаюцца звесткі пра натуральны радыяцыйны фон, падаецца шмат парадаў, як з гаспадаркі атрымаць экалагічна чыстую прадукцыю, засцерагчы здароўе і інш.

*С.Денисова.* **Полевая практика по экологии.**—Мінск, выд. «Універсітэцкае». 1999.—120 с.

Падрабязна апісаны метады, як вызначыць якасны стан наземных і водных экасістэм, паветранага басейна, прапануюцца іншыя метады біяіндыкацыі забруджвання прыродных асяродкаў, напрыклад, з аўтамабільных дарог і інш. Кніга-дапаможнік з вялікай карысцю прыдасца не толькі студэнтам-біёлагам, але ўсім, хто цікавіцца экалогіяй наваколля, у якім жыве, першнаперш школьным настаўнікам і нават вучням.

*Н.Цыпаркоў.* **Экологическое право Республики Беларусь.** *Мінск, БДУ, 1999.—196 с.*

Дапаможнік для тых, хто вывучае права, а таксама для работнікаў сістэмы прыродаахоўных органаў ды службаў кантролю. У кнізе пятнаццаць тэмаў, сярод якіх, напрыклад, тэма кампенсацыі ўчыненай шкоды прыродзе, экалагічныя функцыі праваахоўных органаў (унутраных спраў, суда, адвакатуры, натарыята, Міністэрства юстыцыі), удзел Беларусі ў міжнародных экалагічных Канвенцыях і інш.

*Наталья и Александр Берегини.* **Лечение погодой.** *—Масква, выд.»Геяитэрум», 2000.—192 с.*

Аўтары—вядомыя лекары—папулярна даводзяць пра энергетычны ўплыў надвор'я на наш арганізм, на жыццё і лёс, на штодзённы настрой, асабліва ўранку, калі глядзім у шыбіну акна: «Дождж або сонца?..» У раздзеле «Кола пераменаў» падаецца цікавы партрэт кожнай часіны года. Кніга напісана з любоўю да прыроды, з вялікім жаданнем аўтараў зрабіць свет лепшым, а чалавека ў ім—шчаслівым і здаровым.

*Ю.Козлов, В.Меньшова, И.Святкин.* **Экологическая безопасность автомобильного транспорта.**—Масква, выд. «Агар», выд. «Рандэву—АМ». 1999.—215 с.

Уважаючы на тое, што аўтатранспарт займае ці не першае месца сярод крыніц забруджвання навакольнага асяроддзя, актуальнасць кнігі відавочная. Выданнем мусілі б зацікавіцца экалагічныя службы—Міністэрства ўнутраных спраў, Мінпрыроды і інш.

*И.Самойлов.* **Как очистить воду.** *Серыя «Панацэя»—Растоў-на-Доне, Фенікс», 2000.—128 с.*

«Мы не будзем казаць пра абавязак кожнага абараняць прыроду на колькі хто здольны: гэта занадта гучныя і высокія словы, якія з-за сваёй няпэўнасці ніколі не даюць практычнага выніку. Але зрабіць нешта канкрэтнае (напрыклад, з належнай стараннасцю зладзіць малую каналізацыю на лецішчы) мы заўсёды можам»—чытаем у слове да чытача. Яно і праўда, можна слушна і шмат гаварыць і ў рэшце рэшт вярнуцца дадому, дзе з крана бяжыць... богведама якая вада. Аўтары прапануюць выйсце.

**Книга о минеральной воде.**—*Масква, выд. «Вече», 1998. Складальнік Е.Сербіна.—368 с.*

Выданне знаёміць з распаўсюджанымі тыпамі мінеральных водаў, іхнімі ўласцівасцямі, а таксама метадамі водалячэння. Падаецца спіс самых слынных мінеральных крыніц і курортаў былога Саюза, Балгарыі, Венгрыі, Германіі і інш. З беларускіх «мінералак» рэпрэзентуецца толькі адна (!) —«Мінская» (для параўнання: мінводы Прыбалтыкі прадстаўлены пяццю відамі, Сярэдняй Азіі—дзевяццю). З найбольш вядомых пітных і бальнеалагічных курортаў даведваемся пра крыніцы, бадай, усіх былых «рэспублiксясцёр», сярод якіх няма толькі... нашай роднай Беларусі (ці, можа, у «краіне блакітных азёр» насамрэч няма курортаў на гаючай вадзе?). Самых цікаўных, аднак, адсылаем на ўсялякі выпадак да публікацыі «Вада жывая, святая», «БП», №6, 1999".




**Кніжны знак** — ex Libris, што азначае «з кніг» — першнаперш сведчыць, якому або чыйму кнігазбору належыць тая ці гэтая кніжка. Сёння ён, мо, і не такі актуальны, як у 70-80-я гады, аднак ягонай устойлівасці наўрад ці што пагражае, пакуль з чалавекам застаецца кніга.

Дзякуючы шырокаму збіральніцтву кніжных знакаў, гэты від малой графікі ўганараваны шматлікімі выставамі, даследваннямі, каталогамі, а сярод мастакоў, якія засведчылі цікавасць да «гербавай» кніжнай пячаткі, нямала знаных майстроў.

Цудоўна, што на мініяцюрах бачым матывы роднай прыроды, — падкрэслена сымбалічныя вобразы, якія не адно характарызуюць уладальнікаў, але ўслаўляюць нашу нацынальную біялагічную спадчыну і дарагія ўсім краявіды.

*А.Мельянец. З кніг пісьменніка Міхася Даніленкі. Гомель. 1979.*

Увага. Рэдакцыя "БП" будзе кіравацца правілам: даваць інфармацыю толькі пра тыя выданні, якія пабачыла і мае пра іх досыць поўнае ўяўленне.





**Как птицы строят гнезда. Как птицы выращивают птенцов.** *Серыя «Прырода Расіі». Тэкст і пераважная фотаздымка М.Штэйнбах.—Назрань, выд. «Астрэль», 1997.*

Абедзве фотакніжкі—выдатны прыклад прыродапазнавальнай літаратуры і чалавечага клопату пра біялагічную спадчыну Айчыны. Густоўнае альбомнае выданне, якое прынята называць сувенірным. Не надта важкае, бо няшмат старонак. Але прыемна ўзяць у рукі, адпачыць і шмат пра што падумаць сам-насам з маляўнічымі кніжнымі разваротамі ў якасным друкарскім выкананні.

З апошніх паступленняў у гандлёвую сетку крамаў аб'яднання «Белкніга».

**Нясвіж. Водна-паркавы ландшафт.** Насценны перакідны каляндар. *Мінск, адкрытае акцыянернае таварыства «Мінскводбуд», 2000.—14 с.*

У такім фармаце—памерам 50х70см—Нясвіж паўстаў ці не ўпершыню.

Рэкламна-функцыянальная роля выдання надзвычай удала і, бадай, цалкам падпарадкавана эстэтычнай задачы, у прыватнасці, папулярызацыі прыродна-гістарычнай спадчыны Беларусі. Усе дванаццаць месяцаў ілюстраваныя відамі гарманічна ўладкаванага кутка старажытнасці.

Выданне можна ўважыць за досыць рэдкі прыклад прапаганды «зялёных» каштоўнасцяў сродкамі рэкламы. ААТ «Мінскводбуд» абвяшчае гэты напрамак і не хавае сваіх намераў. *«Выпуск фотакалендара,* —гаворыцца ў прывітальным слове гендырэктара **Сцяпана Паўловіча**, *—мы звязваем не толькі з рэкламнай кампаніяй сучаснага рынкачнага прадпрыемства, але і з нашым агульным абавязкам захаваць нацыянальную культурна-гістарычную спадчыну.* Наклад 1000 ас. Для тых, каго зацікавіць выданне, пакідаем тэлефон у Мінску: **236-50-76.**

## Кантрапункт

# *Увага!* П"яная запаведнасць

**Не дзіўна. На фоне расправы з прыроднай спадчынай Беларусі, што чыніцца на падахоўных яе тэрыторыях, гэтыя здымкі ўжо не шакіруюць. Грамадства, апушчанае на дно твані, мусіць глытаць каламуць. Такая палітыка ўладаў, такі ровень «запаведнасці» ў нашай дзяржаве. Распродаж прыродных каштоўнасцяў поруч са спойваннем насельніцтва з дапамогай «Водкі ЗАПОВЕДНОЙ» ёсць відавочным вынікам дэградацыі. Адно і другое — экспансія палітычных наступстваў. Гнюсная амаральнасць. Знак спадману і курсу на ачмурэнне людзей.**

**З паняццяў і сымбаляў, якія ў здаровым грамадстве мусілі б шанавацца, аберагацца, «п'яная індустрыя» (а гэта, нагадаем, манаполія дзяржавы) робіць сабе рэкламу. Сярод назваў наркатычнага пітва сустракаем ужо «Налібоцкую пушчу», «Свіцязь»...**

**Ці можна такое цярпець? І ці не з'яўляецца гэта выклікам хамства і святатацтва?**

**Пытанне не рытарычнае. Рэдакцыя публічна адрасуе яго грамадскай недзяржаўнай арганізацыі «Экаправа», якая ажыццяўляе праект у сферы абароны экалагічных правоў беларусаў.**




Прыкметы беларускай запаведнасці адшукаў наш чытач і актыўны аўтар Міхал Козел (Тураў)






Рубрыка "Экслібрыс" пачынае грамадскі маніторынг **"Беларуская экалагічная кніга: XXI стагоддзе".** Зацікаўленне чытачоў можа быць самае рознае: як ідзе гандаль і які попыт, чаго няма і што трэба выдаць або перавыдаць, што добрага чуваць у кніжным свеце і гэтак далей. Загадзя ўдзячныя за дзейны водгук.

Цуд

## Крыж з зямлі Кірылы Тураўскага

Уласная інфармацыя.



Фота: Валеры Дранчук

Крыжам Кірылы Тураўскага назвалі жыхары тысячагадовага Турава камень, што расце з зямлі на тэрыторыі мясцовых могілак. Паводле сведчанняў, камень-крыж з кожным годам павялічваецца ў памерах і набывае ўсё больш відавочную ды выразнейшую форму, аднак знайсці яго тут заўжды няпроста, блукаць даводзіцца ці не кожнаму, хто прыйшоў убачыць загадку прыроды на свае вочы. На дзень нашага наведання (святкавалі Яблычны Спас), крыж быў беражліва агорнуты тканым ручніком і перавязаны блакітнай стужкай. У траве ляжалі тры яблыкі.

Калі азірнуцца на гісторыю горада і мястэчка, на велічную постаць красамоўцы і прапаведніка Кірылы, — з'яўленне крыжа з зямных нетраў не выглядае тут з'явай асабліва выключнай. Хутчэй заканамернай. У 1865 у Тураве знойдзена Тураўскае Евангелле — адзін з найбольш ранніх помнікаў усходне-славянскай пісьменнасці XI ст. У пачатку XII ст. тут была пабудавана Тураўская царква. Да пачатку XIX ст. прастаяла Тураўская вежа — абарончае збудаванне XIII ст. Сузор'е рарытэтаў дапаўняецца веліччу сына гэтай зямлі, чые творы склалі залаты фонд старажытна-рускай літаратуры.

Сённяшні Тураў, на жаль, не выдае на месца, дзе адвеку звіла сабе гняздо праўдзівая слава нашай Айчыны. Не кажучы пра гістарычна-культурную спадчыну, не паважаецца тут і прыродная, аб чым ці не ў кожным нумары пісала наша газета.

Камень-крыж падымаецца там, дзе пахаваны Кірыла Тураўскі. Так цвердзяць людзі і ўсё часцей прыходзяць сюды з верай у лепшае.

** Тураў, верасень 2000. Камень-крыж сярод могілак.*

Кантакты

## Валійцы ведаюць пра Беларусь

Уласная інфармацыя.

Група ўдзельнікаў дэмакратычнага руху ў Беларусі вярнулася з Валіі (Вялікабрытанія), дзе колькі дзён знаёмілася з працаю тамтэйшых валанцёраў. **Ірына Віданава,** міжнародная каардынатарка Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацый, сабрала па вяртанні невялічкую прэс-канферэнцыю, каб распавесці пра ўражанні аб дзейнасці валійскіх "зялёных".

*"Там цудоўна зразумелі,* — кажа Ірына, — *што зберагчы і прымножыць прыроду немагчыма з дапамогай арміі чыноўнікаў. Патрэбны шырокі грамадскі рух, шэрагі валанцёраў. Мяне ўразіла, як дзяржава падтрымлівае грамадскі сектар: выдзяляе з бюджэту грошы на праекты, забяспечвае для няўрадавых арганізацый шырокае поле іх дзейнасці. Мы пабачылі й вынік: вялікія плошчы занядбанай спустошанай зямлі вернутыя прыродзе і пакідаюць уражанне некранутых мясцін, дзе людзі вучацца назіраць прыроду, слухаць цішыню і наталяцца спакоем».*

У валійцаў вялікая абазнанасць у праблемах Беларусі і жаданне супрацоўнічаць з намі па розных кірунках, асабліва што датычыць узнаўлення балот і рэчак, іншых асяродкаў дзікай прыроды, якія пацярпелі ад меліярацыі і вытворчай дзейнасці.

Спадчына

## Белавежская пушча, Мірскі замак...

Уласная інфармацыя.

Добрая вестка: сесія камітэта ЮНЕСКО па асветніцкай спадчыне прыняла рашэнне, паводле якога **Мірскі замак** - кветка Сярэднявечча, помнік архітэктурнага дойлідства 16-га стагоддзя - папоўніць Сусветны Спіс аб'ектаў чалавечай спадчыны. Гэта будзе другая светам прызнаная перліна з беларускай прапіскай. Першым і адзіным дагэтуль была, як вядома, **Белавежская пушча.**

Фотаархіў «БП»













Галерэя

## Відок на раку Асцёр у Магілёўскай губерні

Віталь Прошча, Таццяна Марозава.

Ужо гэтай адной работы, здаецца, хапіла б для адчування харавства і велічы зямлі, якое можа перадаць чалавеку пейзажны жывапіс. А калі гэтаму віду мастацтва аддадзена цэлая галерэя Мастацкага музея, можна смела казаць: да нас прыйшло вялікае свята. Супрацоўнікі музея паказалі выдатную калекцыю палотнаў рускага пейзажнага жывапісу канца XIX - пачатку XX ст.ст., тым самым адгарнулі перад гледачом яшчэ адну старонку свайго багатага альбома музейных сховішчаў.

Сярод імёнаў хрэстаматыйна вядомых, такіх як Васняцоў, Саўрасаў, Шышкін, Айвазоўскі, Клодт, Сцяпанаў, бачым прозвішчы менш вядомых майстроў — Дубаўскога, Крыжыцкага, Святаслаўскага, Астравухава, Туржанскага ды іншых, чые працы выстаўляліся зрэдчас.

Кожная выстаўленая рэч — відок, ландшафт, стан прыроды — вартая нейкай асобнай высновы і напоўнена значнасцю спасціжэння. Сярод шэдэўраў — творы землякоў-беларусаў: Бялыніцкага-Бірулі,



Атрыганьева (менавіта ён аўтар згаданай карціны «Відок на раку Асцёр»), а таксама працы, паходжанне якіх наўпрост беларускае (хоць бы «Пожня. Палескі пейзаж» Шышкіна). На наш погляд, «беларуская кампанента» магла быць выяўлена больш выразна, аднак не гэта галоўнае. Кожны беларус і сам тут знойдзе **сваё**, адвечна роднае. І тое, што ён убачыць на выдатна скампанаванай выставе, варта ўважаць за самы актуальны аргумент: прырода прыгожая і велічная таму, што яна самастойная, не пастаўленая на калені і нікому не падуладная, апроч Бога. Аднак за сто гадоў шмат змянілася ў горшы бок. Чысты, «незламаны» пейзаж просіцца ў Чырвоную кнігу. Ўратаваць і зберагчы свае нацыянальныя прыродныя багацці ёсць нашым духоўным і канстытуцыйным абавязкам.

Цікава зазначыць: міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя якога-кольвек дачынення да выставы пейзажнага жывапісу не мела. Грошы з экалагічнага падатку ідуць на... «эстэтызацыю» занядбаных калгасных фермаў.

** М.Атрыганьеў. Зімовы краявід.1882. Фотарэпрадукцыя. З архіва «БП».*

Лес - лёс

## Малюнак лесу ў святле статыстыкі

Таццяна Марозава.

Яшчэ дзесяць гадоў таму савецкая прапаганда выказвала заклапочанасць станам лясоў на абшары саюзнай дзяржавы і «самай вялікай бядой» лесу называлася безадказная палітыка нарыхтоўкі, бо выконвалася яна паводле заданняў, запісаных у дзяржаўных планах. «У выніку інтэнсіўных высечак практычна зведзены да нуля хвойныя лясы Цэнтральнай Расіі, **вычарпаны рэзервы прамысловых нарыхтовак лесу ў заходніх раёнах краіны** (былога СССР - *рэд.*) . Так, ва Ўкраіне, у Беларусі, Прыбалтыцы і Цэнтральна-чарназёмнай зоне **спелыя лясы складаюць 5-7 адсоткаў ляснога фонду** («Звон трывогі», «Політіздат», 1990; падкрэслена намі - *рэд.*).



Ці змянілася што за 10 гадоў у заганнай практыцы лесакарыстання? Спецыялісты вельмі асцярожна адказваюць на гэтае пытанне. З аднаго боку, лічба павялічылася да 7 адсоткаў (з 4-х у 1988), з другога, паказчык па-ранейшаму вельмі нізкі (для параўнання: у блізкай Польшчы ён складае не чатыры, не сем, а ўсе пятнаццаць адсоткаў).

Зрэшты, малюнак лесу ў святле статыстыкі за апошнія 10 гадоў праясніцца на сярэдзіну 2001 года, калі вучоныя-эколагі і лесаводы атрымаюць чарговы Адзіначасны падрахунак лясоў Беларусі.

**Дзякуй усім, хто далучыўся да акцыі газеты «2000год - Год вады і лесу», хто зрабіў свой унёсак у зберажэнне найвялікшых каштоўнасцяў, даслаў нам слушныя падказкі, зрэалізаваў ці задумаў цікавыя праекты на карысць беларускага краявіду. Чарговая акцыя «БП» – 2000год - Год ландшафта.**

Грамада

## Ахова птушак Беларусі: трэці з езд

Уладзя Ляская.

У снежні 2000 грамадская арганізацыя «Ахова птушак Беларусі» сабрала свой чарговы трэці з'езд. Справаздача пра зробленае з акрэсленнем далейшых планаў паказвае, што недзяржаўная экалагічная арганізацыя будзе трымацца насамперш прафесіяналаў-арнітолагаў, гэта значыць, так званай навуковай грамадскасці.

Тым часам курс дзейнасці, арыентаваны на досыць вузкае кола сяброў-спецыялістаў, усё больш расчароўвае шараговых сяброў АПБ. Пра гэта распавёў карэспандэнту «БП» адзін з дэлегатаў з'езда, будучы эколаг, а сёння студэнт з Гародні **Яраслаў Пятроўскі.** Ні на з'ездзе, ні раней не зроблена выразнага націску на пашырэнне дзейнасці АПБ сярод шырокіх слаёў насельніцтва, асабліва ў школах, у сельскай мясцовасці, сказаў ён. На гэты конт бракуе канкрэтных праграм, акцый, конкурсаў. Каб залучыць як мага больш простых аматараў птушак да карысных дзеянняў і спраў, да экалагічнага руху ў рэшце рэшт, патрэбна добрае інфармацыйнае забеспячэнне, сетка кантактаванняў, выразных падказак, з чаго пачынаць і як рабіць. Падобных сустрэчных дзеянняў з боку АПБ пакуль не відаць і не прадбачыцца. *«Мяне гэта моцна расчаравала,* — сказаў далей сябра АПБ Я.Пятроўскі. — *Нават меркаваў прыпыніць сваё сяброўства, як гэта ўжо зрабілі прыкладна 200 сяброў арганізацыі. Рэч у тым, што АПБ пашырае і фінансуе навуковыя праекты,— гэты аспект, на мой погляд, рэзка дамінуе над аспектам абарончага кшталту, з чым я асабіста не згодны. Аднак пакінуў сабе шанец канчаткова пераканацца ў слушнасці сваёй пазіцыі, таму застаўся яшчэ на адзін год. Зраблю так, як мне параіў адзін з кіраўнікоў арганізацыі: свае погляды і прапановы я выкажу пісьмова і буду чакаць канструктыўнай рэакцыі.»*



Паводле звестак, якія маюцца ў рэдакцыі, на з'ездзе не было журналістаў і на «пытанні для прэсы» час не адводзіўся. Не прагучала і ніводнага даклада, нават паведамлення па-беларуску, хоць юрыдычная назва — Ахова птушак Беларусі — заўжды пакідае падставы сябрам арганізацыі, схільным да нацыянальнай ідэнтыфікацыі, разлічваць на павагу іх выбару.

**маладая чапля.*

*Здымак з фотаархіва «БП»*